МІНІСТЭРСТВА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ
І ХАРЧАВАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ГАЛОЎНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КАДРАЎ

Установа адукацыі
«БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ
СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АКАДЭМІЯ»

Кафедра гісторыі і культуралогіі

*Н. А. Глушакова*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
# ў табліцах і схемах

***Матэрыялы для самастойнай працы
для студэнтаў усіх факультэтаў***




**Горкі
БДСГА
2013**

МІНІСТЭРСТВА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ
І ХАРЧАВАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ГАЛОЎНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КАДРАЎ

Установа адукацыі
«БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ
СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АКАДЭМІЯ»

Кафедра гісторыі і культуралогіі

*Н. А. Глушакова*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ТАБЛІЦАХ І СХЕМАХ

*Матэрыялы для самастойнай працы для студэнтаў усіх факультэтаў*

Горкі
БДСГА
2013

УДК 93/94(476)(075.8)
ББК 63.3(4Беи)я73
Г55

*Рэкамендавана метадычнай камісіяй
савета па гуманітарызацыі адукацыі і выхавання БДСГА.
Пратакол № 11 ад 20.06.2012 г.*

Аўтар:
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *Н. А. Глушакова*

Рэцэнзенты:
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *А. А. Герасімовіч*;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *Г. А. Гусарава*

**Глушакова, Н. А.**

Г55 Гісторыя Беларусі ў табліцах і схемах : матэрыялы для самастойнай працы / Н. А. Глушакова. – Горкі : БДСГА, – 2013. – 144 с.

Дапаможнік прызначаны для азнаямлення з асноўнымі вызначальнымі гістарычнымі падзеямі і асобамі. Фактычны матэрыял прадстаўлены ў выглядзе табліц, структурна-лагічных схем, карта-схем, ілюстрацый. Прыведзены прыкладныя варыянты тэстаў для самакантролю.

Матэрыял можа быць карысным пры падрыхтоўцы да экзамену і семінарскіх заняткаў.

Для студэнтаў усіх факультэтаў.

**УДК 93/94(476)(075.8)**
**ББК 63.3(4Беи)я73**

# УСТУП

Адукацыйны стандарт Рэспублікі Беларусь прадугледжвае разам з навучаннем па абранай спецыяльнасці далейшае паглыбленне гуманітарных і грамадазнаўчых ведаў. Асноўныя мэты сацыяльна-гуманітарнай падрыхтоўкі студэнтаў – фарміраванне і развіццё сацыяльна-асабістых кампетэнцый, заснаваных на гуманітарных ведах, эмацыянальна-каштоўным і сацыяльна-творчым вопыце, што забяспечвае вырашэнне і выкананне грамадзянскіх, сацыяльна-прафесійных, асабістых задач і функцый. Састаўной часткай сацыяльна-гуманітарнай падрыхтоўкі з'яўляецца курс «Гісторыя Беларусі». Асноўныя мэты яго вывучэння наступныя:

– фарміраванне ў студэнтаў канцэптуальнага гістарычнага мыслення, заснаванага на катэгорыях, паняццях і канцэпцыях гістарычнай навукі;

– засваенне айчыннага і сусветнага гістарычнага вопыту, які дапаможа арыентавацца ў часе і прасторы, вызначаць асноўныя тэндэнцыі гістарычнага развіцця, а таксама сродкі вырашэння сучасных праблем;

– выяўленне складанасці працэсу развіцця ведаў аб гісторыі і выпрацоўка разумення таго, што гістарычныя з'явы і падзеі абумоўліваюцца канкрэтна-гістарычнымі абставінамі.

Курс айчыннай гісторыі ў вышэйшай школе з'яўляецца істотным падагульняючым этапам у працэсе фарміравання грамадзянскай свядомасці студэнтаў. Між тым абмежаваная колькасць заняткаў і агульнадаступнасць шматлікіх друкаваных выданняў па гісторыі патрабуюць ад іх самастойнага засваення значнай часткі вучэбнага матэрыялу.

У дадзенай рабоце найбольш важныя і складаныя тэмы курса «Гісторыя Беларусі» прадстаўлены ў выглядзе структурна-лагічных схем і табліц. Абагульнены такім чынам асноўны фактычны матэрыял садзейнічае інтэнсіфікацыі навучання, актывізацыі лагічнага мыслення, упарадкаванню вывучаемага матэрыялу, спрыяе ўстанаўленню прычынна-следчых сувязяў паміж гістарычнымі падзеямі, усведамленню іх як сістэмы ведаў.

Дадзенае метадычнае выданне прызначана для студэнтаў усіх факультэтаў БДСГА і прызвана дапамагчы метадычна граматна працаваць з падручнікам па гісторыі, лепш асэнсаваць тэарытычны матэрыял па найбольш важных і складаных тэмах курса, зрабіць падрыхтоўку да семінараў і залікова-экзаменацыйнай сесіі больш рацыянальнай.

## Раздзел 1. ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА СТАРАЖЫТНАГА СВЕТУ, СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ І БЕЛАРУСЬ

### Перыядызацыя гісторыі першабытнаабшчыннага ладу

| Агульнагістарычная | Археалагічная | Храналагічная |
|---|---|---|
| Першабытны чалавечы статак<br>Мацярынская родавая абшчына | Каменны век<br><br>сярэдні палеаліт (мусцьe)<br>позні палеаліт<br><br>мезаліт<br>неаліт | 100–2 тыс. гадоў да н. э.<br><br>100–35 тыс. гадоў таму назад<br><br>35 тыс. гадоў таму назад – IX тыс. да н. э.<br>IX–V тыс. да н. э.<br>канец V–III тыс. да н. э. |
| Патрыярхальная родавая абшчына | Бронзавы век | II тыс. да н. э.–VII ст. да н. э. |
| Патрыярхальная родавая абшчына<br>Суседская абшчына | Жалезны век | VII ст. да н. э.–V ст. н. э. |

### Характарыстыка першабытнага грамадства на тэрыторыі Беларусі

| Перыя-дызацыя | Тэрыторыя рассялення | Матэрыяльная і духоўная культура | Эвалюцыя грамадскага ладу |
|---|---|---|---|
| **I. Каменны век** | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Палеаліт – 100–35 тыс. гадоў таму | Ледавіковая эпоха | | |
| Позні (верхні) палеаліт – 35 тыс. гадоў таму – IX тыс. да н. э. | На поўначы – ледавік, клімат халодны. Першыя стаянкі – в. Юравічы (Калінкавіцкі раён) – 24 тыс. гадоў да н. э. і в. Бердыж (Чачэрскі раён) – 21 тыс. гадоў да н. э. | Чалавек навучыўся паляваць на буйных жывёл, здабываць агонь, будаваць прымітыўнае жыллё. Крамянёвыя прылады працы. Узнікненне мастацтва | Закончылася фарміраванне людзей сучаснага фізічнага тыпу – «чалавека разумнага». Мацярынская родавая абшчына |
| Мезаліт – IX–к.V тыс. да н. э. | Поўнае засяленне тэрыторыі Беларусі. Утварэнне аўтахтоннага насельніцтва | Лук і стрэлы. Зерняцёркі. Прысвойваючая гаспадарка. Асноўныя заняткі: паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Прыручэнне | Рухомасць насельніцтва. Мацярынская родавая абшчына. Роды аб’ядноўваліся ў плямёны |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | Вядома 120 стаянак. Агульная колькасць насельніцтва – 4–6 тыс. чалавек | сабакі. Вынаходства лодкі | Міграцыя плямён |
| Неаліт – IV–III тыс. да н. э. | Клімат больш цёплы, рост ліставых лясоў. Вядома 600 стаянак неаліту: в. Камень (Пінскі раён); в. Асавец (Бешанковіцкі раён); п. Краснасельскі (Ваўкавыскі раён). Агульная колькасць насельніцтва – 27–36 тыс. чалавек | Ткацтва. Гліняны посуд (конусападобны), ручная лепка. Крэмнездабываючыя шахты. Матыка, серп. Арнаменты на касцяных пласцінках, гліняных гаршках, статуэткі з косці, дрэва, упрыгожванні з косці, бурштыну, дрэва | Пераход да вытворчай гаспадаркі – земляробства і жывёлагадоўлі. Мацярынская родавая абшчына. Узнікненне новых супольнасцей людзей – вялікіх груп плямён: днепраданецкая, верхнедняпроўская, нёманская, нарвенская |
| **II. Бронзавы век** | | | |
| Бронзавы век – II тыс. да н. э. – пач. I тыс. да н. э. | Сучасныя клімат, флора і фаўна. Пачатак засялення тэрыторыі Беларусі індаеўрапейцамі | Вынаходства кола. Прыручэнне каня. Выкарыстанне медных і бронзавых прылад працы. Распаўсюджанне матычнага земляробства і жывёлагадоўлі. З’яўленне падсечнаагнявой сістэмы земляробства. Пласкадонны гліняны посуд | Патрыярхальная родавая абшчына. Утварэнне вялікіх патрыярхальных сем’яў. Існаванне груп плямён |
| **III. Жалезны век** | | | |
| Жалезны век – пач. I тыс. да н. э. – V ст. н. э. | Сучасныя клімат, флора і фаўна. Балцкае засяленне тэрыторыі Беларусі | Домніцы, выкарыстанне балотнай руды, «крычнага жалеза». Падсечна-агнявое земляробства, развіццё ворыўнай сістэмы земляробства. Верацяно, ткацкі станок, ганчарны круг | Патрыярхальная родавая абшчына. Суседская абшчына. З’яўленне маёмаснай няроўнасці |

## Каменны век на Беларусі




*а – найстаражытнейшыя стаянкі; б – старажытныя паселішчы; в – напрамкі засялення Беларусі; г – граніца апошняга ледавіка*

## Развіццё прылад працы ў працэсе пераходу ад збіральніцтва да земляробства



## Перыяды этнічнай гісторыі Беларусі




## Рассяленне летапісных плямёнаў на тэрыторыі Беларусі



## Канцэпцыі паходжання беларускага этнасу




## Беларуская дзяржаўнасць – X–XIII стст.




- Полацкае
- Друцкае
- Мінскае
- Ізяслаўскае
- Віцебскае
- Лагойскае

- Пінскае
- Слуцкае
- Клецкае
- Тураўскае
- Дубровіцкае

## Полацкая княжацкая дынастыя

| Гады княжання | Імя князя |
|---|---|
| Каля 960–980-х | Рагвалод |
| … – 1001 | Ізяслаў Уладзіміравіч (унук Рагвалода, сын кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча) |
| 1003–1044 | Брачыслаў Ізяславіч |
| 1044–1101 | Усяслаў Брачыславіч Чарадзей |

## Князі Тураўскага княства

| Гады княжання | Імя князя |
|---|---|
| … 980 … | Тур |
| канец X ст. – 1015 | Святаполк Уладзіміравіч Акаянны |
| … – 1054 | Ізяслаў Яраславіч (сын Яраслава Мудрага) |
| … | Яраполк Ізяславіч |
| 1087–1113 (з 1093 г. – і кіеўскі князь) | Святаполк Ізяславіч |
| 1113–1135 | Тураў падпарадкоўваецца Уладзіміру Манамаху |
| 1158–1162 | Юрый Яраславіч |

## Старажытныя землі Беларусі ў XI–XIII стст.




*1 – цэнтры княстваў да іх распаду на ўдзелы; 2 – цэнтры ўдзельных княстваў XI–XIII стст; 3 – гарады XI–XIII стст.; 4 – межы княстваў; 5 – сучасныя межы Рэспублікі Беларусь*

## Пантэон язычніцкіх багоў

| Народы, функцыя | Грэкі | Рымляне | Беларусы |
|---|---|---|---|
| Вышэйшы бог | Зеўс | Юпіцер | Белбог |
| Неба | Зеўс | Юпіцер | Сварог |
| Гром | Зеўс | Юпіцер | Пярун |
| Вайна | Арэс | Марс | Пярун |
| Княжацкая ўлада | Зеўс | Юпіцер | Пярун |
| Маці-зямля | Гея | Тэлус (Terra) | Маці-зямля |
| Плоднасць | Дыметра, Дыяніс | Цырэра, Бахус | Ярыла |
| Каханне, прыгажосць | Афрадзіта | Купідон, Венера | Ляля |
| Шлюб, сям’я | Гера | Юнона | Лада |
| Лес, жывёла | Пан | Сільван, Дзіяна | Вялес |
| Свет памерлых | Аід | Плутон | Вялес |
| Агонь | Гефест | Веста | Сварожыч |
| Сонца | Геліяс | Фэб, Сол | Дажбог |

## Захаванне язычніцкіх традыцый пасля прыняцця хрысціянства



## Значэнне прыняцця хрысціянства для ўсходніх славян



*Фрэска «Хрышчэнне князя Уладзіміра», У. Васняцоў. Уладзімірскі сабор (Кіеў), к. 1880-х гг.*




## Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага

Прычыны ўтварэння

- Развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, рамяства, гандлю, рост гарадоў і інш.
- Паглыбленне сацыяльнай дыферэнцыяцыі грамадства і супярэчнасцей паміж саслоўямі
- Неабходнасць барацьбы са знешняй небяспекай

Першая сталіца ВКЛ – Наваградак, з 1323 г. – Вільня. Першы князь – Міндоўг

Шляхі ўваходжання

- Дыпламатычныя пагадненні (Полацкае княства)
- Шлюбныя сувязі (Віцебскае княства)
- Захопы (Падолле, Падляшша, Валынь)



Герб ВКЛ з к. XIV ст. – «Пагоня»

## Канцэпцыі ўтварэнння ВКЛ

**Канцэпцыя «літоўскага заваявання»** («літоўская»).
У адпаведнасці з ёй заходнія землі старажытнай Русі былі захоплены літоўскімі князямі падчас аслаблення Русі міжусобіцамі і мангола-татарскім заваяваннем

**Канцэпцыя «беларускай дзяржавы»** («беларуская»).
Узнікла ў 20-ыя гг. XX ст. (В. Ластоўскі, М. Доўнар-Запольскі, у к. XX ст. М. Ермаловіч). З самага пачатку ВКЛ фарміравалася як дзяржава продкаў беларусаў

**Канцэпцыя поліэтнічнай дзяржавы** («цэнтрысцкая»).
Сфармулявана ў 90-ыя гг. XX ст. У п. п. XIII ст. у Верхнім Панямонні ўзнікла беларуска-літоўскае гаспадарства з цэнтрам у Наваградку, якое стала ядром будучай дзяржавы. У ВКЛ назва «Літва» тады адносілася да Верхняга і Сярэдняга Панямоння, «Русь» – Верхняга Падзвіння і Падняпроўя, «Жмудзь» – сучасных заходніх этнічналітоўскіх зямель (канчаткова далучаны ў п. п. XV ст.). У др. п. XV ст. – 60-ыя гг. XVI ст. у склад ВКЛ уваходзіла частка ўкраінскіх зямель (Валынь, Падолле, Кіеўшчына)

## Знешняя і ўнутраная палітыка ВКЛ у XIII–XV стст.

| Вялікія князі ВКЛ | | Знешнепалітычныя падзеі | Унутрыпалітычныя падзеі |
|---|---|---|---|
| Імя | Гады княжання | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Міндоўг | сярэдзіна 1240-х–1263-і гг. | 1248 г. – кааліцыя супраць Міндоўга, у якую ўвайшлі галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька, Таўцівіл, Лівонскі ордэн і інш. | Падпарадкаваў сабе князёў балцкіх плямён (аўкштайтаў і жэмайтаў). Паклаў пачатак утварэння ВКЛ |
| | | 1260 г. – паход крыжакоў на землі Жамойціі. Нямецкія рыцары былі разбіты Міндоўгам | 1253 г. – каранацыя Міндоўга |
| | | | 1263 г. – змова супраць Міндоўга. Быў забіты разам з двума малалетнімі сынамі |

Працяг

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| Войшалк | 1263–1268 гг. | Барацьба з галіцка-валынскімі князямі | Заваяваў балцка-літоўскія землі Нальшчаны і Дзяволту |
| Шварн | 1268–1270 гг. | Прыхільнік аб'яднання сіл ВКЛ і Галіцка-Валынскага княства. Нападаў на Польшчу | |
| Трайдзень (Трайдэн) | 1270–1272 гг. | | Далучыў землі ўсяго Верхняга Панямоння (яцвягаў, земгалаў, селаў). Пасяліў у наваколлі Слоніма і Гародні заходніх балтаў (прусаў) |
| Віцень | 1295–1316 гг. | Актыўная барацьба з крыжакамі | 1307 г. – далучэнне Полацкай зямлі |
| | | 1314 г. – напад нямецкіх рыцараў на Наваградак. Напад адбіты Давыдам Гарадзенскім | 1315г. – далучэнне Берасцейкай зямлі |
| | | | Уведзены герб «Пагоня» |
| Гедымін | 1316–1341 гг. | Актыўная барацьба з крыжакамі | 1323 г. – перанос сталіцы ВКЛ у Вільню |
| | | | 1320–1330-я гг. – уваходжанне ў склад ВКЛ Віцебскай зямлі |
| | | 1331 г. – перамога ў бітве на р. Акмяна над рыцарамі Тэўтонскага ордэна | 20–40-я гг. XIV ст. – далучэнне большай часткі сучасных беларускіх зямель (ад Заходняга Буга да Дняпра). Тытул Гедыміна – кароль Літвы і Русі |
| | | | Утварэнне Літоўскай праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку. Прынцып дзяржаўнага кіравання: «Не рушыць даўніны, не ўводзіць навізны» |
| Альгерд | 1345–1377 гг. | Актыўная барацьба з крыжакамі | |
| | | 1348 г. – бітва на р. Стрэве (прыток Нёмана) з крыжакамі завяршылася безвынікова | |
| | | | 50–70-я гг. XIV ст. – далучэнне новых зямель: |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | 1363 г. – бітва на р. Сінія Воды. Перамога войска Альгерда над татарамі | Кіеўшчына і Падолле |
| | | 1368, 1370, 1372 гг. – паходы на Маскву | Смаленскія, Чарнігава-Северскія, Бранскія землі |
| | | Барацьба з Польшчай | Валынь |
| Ягайла | 1377–1392 гг. | 1380 г. – Кулікоўская бітва (Ягайла – саюзнік татараў, удзелу ў бітве не прымаў) | |
| | | 1385 г. – Крэўская унія | |
| | | 1386 г. – прыняцце каталіцтва Ягайлам, шлюб з дачкой польскага караля Ядзвігай<br><br>Кароль Польшчы (Уладзіслаў II) з 1386 па 1434 г. | Прывілей Ягайлы, які надаваў дадатковыя правы і вольнасці феадалам каталіцкага веравызнання.<br><br>Праваслаўныя феадалы пастаўлены ў няроўнае становішча з феадаламі-католікамі |
| Вітаўт | 1392–1430 гг. | | 1392 г. – Востраўскае пагадненне (перадача ўлады ў ВКЛ Вітаўту, прызнанне яго пажыццёвым гаспадаром ВКЛ) |
| | | 1398 г. – пагадненне на востраве Салін паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам, князь Вітаўт абвешчаны каралём Літвы і Русі | 1393–1395 гг. – увядзенне сістэмы намесніцтва |
| | | 1399 г. – бітва на р. Ворскла, дзе Вітаўт пацярпеў паражэнне | |
| | | 1401 г. – Віленска-Радамская унія. Дзяржаўны і палітычны саюз ВКЛ і Польшчы супраць агрэсіі крыжакоў.<br>1408 г. – супрацьстаянне войскаў ВКЛ і Масквы на р. Угра, па якой прайшла ўсходняя мяжа ВКЛ | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | 1409–1411 гг. – Вялікая вайна з крыжакамі.<br>1410 г. – Грунвальдская бітва.<br>1411 г. – Таруньскі мір паміж ВКЛ, Польшчай, і Тэўтонскім ордэнам, які страціў сваё дамінаванне ў Балтыйскім рэгіёне | Да ВКЛ далучаны Жамойція і землі яцвягаў |
| | | 1413 г. – Гарадзельская унія (пацвердзіла аб'яднанне ВКЛ з Польскім каралеўствам) | 1413 г. – Гарадзельскі прывілей, які дазваляў толькі феадалам католікам займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел ВКЛ на: ваяводствы, паветы, воласці |
| Свідрыгайла | 1430–1432 гг. | | |
| Жыгімонт Кейстутавіч | 1432–1440 гг. | | 1432–1436 гг. – феадальная вайна за ўладу паміж праваслаўнымі прыхільнікамі Свідрыгайлы і каталіцкімі Жыгімонта |
| Казімір | 1440–1492 гг. | Канфрантацыя з Маскоўскай дзяржавай, падтрымка ханаў Залатой Арды ў іх барацьбе з Масквой | 1447 г. – прывілей Казіміра<br>1468 г. – Судзебнік Казіміра<br>1481 г. – змова праваслаўных феадалаў |

## Крэўская, Віленска-Радамская і Гарадзельская уніі

| План параўнання | Крэўская унія | Віленска-Радамская унія | Гарадзельская унія |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Прычына падпісання | Знешняя небяспека з боку крыжакоў. Зацікаўленасць Ягайлы ў саюзніках для захавання ўлады. Імкненне польскіх феадалаў да саюза з ВКЛ | Паражэнне на р. Ворскле паслабіла становішча Вітаўта і ВКЛ | Пагроза вайны з крыжакамі |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| Дата | 1385 г. | 1401 г. | 1413 г. |
| Месца | Замак Крэва | г. Вільня | Замак Гародля |
| Умовы | Шлюб Ягайлы і Ядзвігі (дынастычная унія). Барацьба абедзвюх дзяржаў з Тэўтонскім ордэнам. Хрышчэнне язычніцкай Літвы ў каталіцтва. Далучэнне «літоўскіх і рускіх зямель» да Польшчы | Дзяржавы павінны дзейнічаць разам супраць знешніх ворагаў. Палякі абавязваліся не выбіраць караля без згоды феадалаў ВКЛ. Пацвярджаліся правы Вітаўта на самастойнае кіраванне ВКЛ, але прызнаваліся спадчынныя правы Ягайлы і яго нашчадкаў (захоўваў тытул найвышэйшага літоўскага князя) | 47 польскіх феадалаў падаравалі свае гербы 47 феадалам-католікам ВКЛ, якія атрымалі права свабодна распараджацца маёмасцю абірацца на дзяржаўныя пасады ВКЛ (і ў склад Паноў-рады). Феадалы Польшчы і ВКЛ узаемна абавязваліся не выбіраць кіраўнікоў дзяржавы без згоды адзін аднаго. У ВКЛ уводзіўся новы адміністрацыйны падзел і пасады – ваяводы і кашталяна ў Вільні, Троках і інш. гарадах. Каталіцкай царкве гарантаваліся значныя правы і льготы |
| **Вынікі** | | | |
| Станоўчыя | Умацоўвала абараназдольнасць Польшчы і ВКЛ. Спрыяла росту эканамічных, палітычных і культурных сувязей | Вітаўт стаў пажыццёвым гаспадаром ВКЛ і атрымаў поўную свабоду ў вырашэнні ўнутраных спраў | Унія абвяшчала і гарантавала захаванне адасобленасці ВКЛ і нязменнасць улады вялікага князя літоўскага |
| Адмоўныя | Пагроза заняпаду нацыянальнай мовы і культуры ВКЛ, страты дзяржаўнай самастойнасці княства | Пасля смерці Вітаўта ВКЛ павінна было перайсці да Ягайлы і яго нашчадкаў | Нераўнапраўнае становішча праваслаўнага насельніцтва княства спрыяла росту ўнутраных супярэчнасцяў |




## Формы дзяржаўнага кіравання ВКЛ



**Неабмежаваная манархія –**
друг. пал. XIV– перш. пал XV стст.

Адзінаўладдзе – заканадаўчая, выканаўчая, судовая, ваенная ўлада належаць толькі вялікаму князю.

Рада – дарадчы орган улады.

**Саслоўна-прадстаўнічая манархія –**
сярэдзіна і другая палова XV ст.

На працягу XV ст., асабліва пры Аляксандру, ВКЛ паступова пераўтвараецца ў саслоўна-прадстаўнічую манархію. Роля Паноў-рады і вальнага сейму ў дзяржаўным кіраванні становіцца вышэйшай за ролю вялікага князя.

Паны-рады і вальны сейм – заканадаўчыя і распарадчыя органы ўлады

# Дзяржаўны апарат кіравання ВКЛ




# Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел ВКЛ у к. XVI ст.



## Асноўныя віды сялянскіх павіннасцей




## Саслоўі (групы насельніцтва) у ВКЛ




## Этапы запрыгоньвання сялян



## Арганізацыя самакіравання горада




**Граматы магдэбургскага права атрымалі**



*З прывілея на магдэбургскае права*

- 1387 г. – Вільня
- 1390 г. – Берасце
- 1496 г. – Гародня
- 1498 г. – Полацк
- 1499 г. – Менск



*Мінская гарадская ратуша*

# Раздзел 2. ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА НОВАГА ЧАСУ І БЕЛАРУСЬ

## Прычыны аб’яднання ВКЛ з Польскім каралеўствам




**Люблінскі сойм** –
10 студзеня – 1 ліпеня 1569 г.
**Галоўны вынік**:
аб’яднанне ВКЛ і Польскага каралеўства на аснове федэрацыі ў агульную дзяржаву Рэч Паспалітую (рэспубліка)



*«Люблінская унія». Я. Матэйка, 1569 г.*

## Умовы аб’яднання

| Агульныя | Асобныя |
|---|---|
| • манарх (кароль польскі, вялікі князь літоўскі)<br>• сенат і сойм<br>• знешняя палітыка<br>• умовы набыцця зямлі польскімі і літоўскімі феадаламі ў межах новай дзяржавы | • адміністрацыйны апарат<br>• заканадаўства<br>• суд<br>• войска<br>• тытул і пячатка<br>• мова |

## Барацьба за захаванне самастойнасці ВКЛ

▪ 1581 г. – створаны Галоўны Трыбунал – вышэйшы судовы орган для ВКЛ.

▪ 1588 г. – выдадзены III Статут ВКЛ, дзе сцвярджалася, што займаць дзяржаўныя пасады і атрымліваць землі ў ВКЛ маглі толькі грамадзяне ВКЛ. Статут па сутнасці скасаваў многія пасновы Люблінскай уніі.

▪ 1655 г. – польскім воінскім часцям забаронена пераходзіць межы ВКЛ без спецыяльнага дазволу.

▪ 1673 г. – кожны трэці сойм павінен збірацца ў ВКЛ.

## Накірункі і плыні хрысціянства ў XVI ст.



## Рэч Паспалітая ў к. XVI ст.




## Асноўныя хрысціянскія канфесіі ў Беларусі

| Што параў-ноўваецца | Праваслаўе | Каталіцызм | Пратэстан-тызм | Уніяцтва |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Крыніца веры | Свяшчэннае Пісанне (Біблія), Свяшчэннае Паданне (пастановы Ўся- | | Біблія | Біблія, Свяшчэннае Па- |

<table>
<tr><th>1</th><th>2</th><th>3</th><th>4</th><th>5</th></tr>
<tr><td></td><td colspan="2">ленскіх сабораў і вучэнне айцоў царквы)</td><td></td><td>данне</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Сімвал веры (12 асноўных дагматаў)</td><td colspan="2">Асноўныя дагматы супадаюць, трыадзінства Бога</td><td rowspan="2">Трыадзінства Бога (прызнаюць не ўсе плыні); Дух Святы зыходзіць ад Бога-Айца і Бога-Сына. Адмаўляецца шанаванне анёлаў, Багародзіцы, выратаванне душы асабістай верай</td><td rowspan="2">Трыадзінства Бога; Дух Святы зыходзіць ад Бога-Айца і Бога-Сына. Асноўныя дагматы тыя ж, што і ў каталіцызме</td></tr>
<tr><td>Дух Святы зыходзіць толькі ад Бога-Айца</td><td>Дух Святы зыходзіць ад Бога-Айца і Бога-Сына. Культ Маці Божай (Дзевы Марыі). Існаванне чысцілішча, непагрэшнасць Папы Рымскага ў пытаннях веры</td></tr>
<tr><td rowspan="3">Абрад</td><td>Візантыйска-славянскі</td><td>Рымскі</td><td rowspan="3">Замена таінстваў 3 абрадамі: хрышчэнне, вянчанне, прычашчэнне; адмаўленне ад пакланення святым, крыжу, мошчам, спяванне псалмоў</td><td rowspan="3">Літургія, прызнанне 7 таінстваў; захаванне праваслаўнай абраднасці; адсутнасць цэлібату</td></tr>
<tr><td colspan="2">Прызнанне 7 таінстваў</td></tr>
<tr><td>Адсутнасць цэлібату для белага духавенства</td><td>Цэлібат для ўсяго духавенства</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Мова набажэнства</td><td>Царкоўна-славянская</td><td>Лацінская</td><td rowspan="2">Нацыянальная</td><td rowspan="2">Царкоўна-славянская, грэчаская, нацыянальная</td></tr>
<tr><td colspan="2">Нацыянальныя мовы</td></tr>
<tr><td>Месца набажэнства</td><td>Царква</td><td>Касцёл</td><td>Збор</td><td>Царква</td></tr>
<tr><td>Вышэйшы іерарх</td><td>Патрыярх</td><td>Папа Рымскі</td><td>Свяшчэнства ўсіх веруючых</td><td>Папа Рымскі</td></tr>
<tr><td>Каляндар</td><td>Юліянскі</td><td>Грыгарыянскі</td><td>Грыгарыянскі</td><td>Грыгарыянскі</td></tr>
</table>

## Уніяцтва ў Беларусі ў к. XVI – пер. пал. XVII стст.




## Сацыяльна-эканамічны стан Рэчы Паспалітай у XVII–XVIII стст.



## Прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай




## Падзелы Рэчы Паспалітай



## Тэрытарыяльна-адміністрацыйная рэформа 1796–1797 гг.




## Дзейнасць тайных таварystваў у Беларусі

**1817 г.**

«Таварыства філаматаў»

А. Міцкевіч, Т. Зан, Я. Чачот, І. Дамейка

Мэты: культурна-асветніцкая дзейнасць, ліквідацыя прыгоннага права, звяржэнне самадзяржаўя, аднаўленне Рэчы Паспалітай

**1820 г.**

«Таварыства філарэтаў»

І. Лялевель, М. Баброўскі, І. Даніловіч

Мэты: пашырэнне асветы, прапаганда роўнасці і свабоды, аж да ліквідацыі прыгоннага права і дазволу незалежнага існавання народаў

**1836 г.**

«Дэмакратычнае таварыства»

Ф. Савіч

Мэты: устанаўленне роўнасці паміж людзьмі, вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёю, перадача ўлады народу

## Паўстанне 1830–1831 гг.

Лістапад 1830 г. – у Варшаве ўспыхнула паўстанне з мэтай аднаўлення Рэчы Паспалітай у сувязі з намерам расійскага імператара Мікалая I паслаць войска на падаўленне рэвалюцыі ў Францыі і Бельгіі.

**Кансерватыўна-арыстакратычная плынь** (А. Чартарыйскі). Захаванне традыцый, стабільнасці, упарадкаванасці, аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

**Шляхецка-рэвалюцыйная (дэмакратычная) плынь** (І. Лялевель). Лозунг «За нашу і вашу свабоду». Выступалі за салідарнасць з рускім вызваленчым рухам, але не ставілі пытання аб нацыянальных правах народаў

**Ход паўстання:**

- Студзень 1831 г. – для кіраўніцтва паўстаннем створаны Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт. Выбраны нацыянальны ўрад на чале з А. Чартарыйскім. Прыняты акт аб пазбаўленні Мікалая I і членаў яго сям'і права на польскі прастол.
- Сакавік – красавік 1831 г. – паўстанне ахапіла Літву, Паўночна-Заходнюю Беларусь.
- Май 1831 г. – выступленні пачаліся ў Гродзенскай губерні.
- Чэрвень – ліпень 1831 г. – паўстанне пашыралася на поўдзень Мінскай губерні.
- 19 чэрвеня 1831 г. – паўстанцы разгромлены ў бітве за Вільню.
- Пачатак жніўня 1831 г. – паўстанне падаўлена на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Вынікі грамадска-палітычнага руху**

- царскі ўрад узяў курс на аслабленне польскага ўплыву ў беларускіх губернях;
- 1820 г. – указ аб спыненні дзейнасці Ордэна езуітаў на тэрыторыі Расійскай імперыі;
- 1831 г. – указ «Аб разборы шляхты у заходніх губернях і аб упарадкаванні гэтага роду людзей»;
- 1831–1840 гг. – адмена дзеяння Статута ВКЛ на беларускіх землях.

## Сялянская рэформа 1861 г. і яе асаблівасці на Беларусі

**Прычыны:** крызісны стан эканомікі і неабходнасць скасавання перашкод для яе далейшага развіцця; антыпрыгонніцкі рух сялян

**Агульныя палажэнні**: сялянам гарантаваліся асабістая свабода, грамадзянскія правы і права распараджэння сваёй маёмасцю; зямля прызнавалася ўласнасцю памешчыкаў; да правядзення выкупной аперацыі (9 гадоў) сяляне павінны былі адбываць павіннасці (часоваабавязаны стан); стваралася новая сістэма кіравання вёскай: стараста – сельская грамада – воласць

**Заканадаўчыя акты:**

1. **«Маніфест»** аб адмене прыгоннага права ад 19 лютага 1861 г.
2. **«Агульныя палажэнні»**.
3. **«Мясцовае палажэнне»**, для Віцебскай і Магілёўскай губ. (ад 1– 2 да 4–5,5 дзесяцін на рэвізскую душу).
4. **«Мясцовае палажэнне»**, для Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, часткі Віцебскай губ. (замацоўваўся дарэформенны надзел зямлі). Усяго прынята 17 актаў

**Выкупная сума** разлічвалася шляхам 6 % капіталізацыі гадавога аброку. 20 % плацілі сяляне, 80 % – пазыка дзяржавы

**Праваднікі:**

- міравыя пасрэднікі;
- павятовыя міравыя з'езды;
- губернскія па сялянскіх справах установы

**Станоўчыя вынікі:**

- сяляне атрымалі грамадзянскія правы і свабоды;
- рэформа садзейнічала развіццю капіталізма, фарміраванню рынка наёмнай рабочай сілы.

**Адмоўныя:**

- захаваны феадальныя перажыткі (буйнае памешчыцкае землеўладанне, сервітуты, цераспалосіца)

**Уплыў паўстання 1863 – 1864 гг.:**

- сяляне пераводзіліся на абавязковы выкуп зямлі;
- на 20 % зніжаліся выкупныя плацяжы;
- беззямельным сялянам вярталіся іх надзелы;
- захоўвалася сервітутнае права

## Буржуазныя рэформы 1860–1870-х гг. на Беларусі

| Назва рэформы | Год правядзення | Капіталістычныя рысы | Феадальныя перажыткі | Асаблівасці рэформы на Беларусі |
|---|---|---|---|---|
| Земская | 1864 г., у Беларусі пачалася ў 1911 г. | Ствараліся земствы – выбарныя органы кіравання гаспадаркай, адукацыяй, аховай здароўя і культурай у паветах і губернях | Перавага ў земскіх органах кіравання належала дваранству | Выбарныя земскія органы адсутнічалі ў Беларусі да 1911 г. Земскія чыноўнікі і служачыя прызначаліся ўладамі |
| Судовая | 1864 г., у Беларусі пачалася ў 1872 г. | Суд усесаслоўны, публічны, незалежны ад улады, спаборніцкі (адвакат, пракурор, прысяжныя паверaны, прысяжныя засядацелі) | Суддзямі і пракурорамі былі пераважна дваране. Захаваліся цялесныя пакаранні сялян | Міравыя суддзі не выбіраліся, а прызначаліся; спіс прысяжных зацвярджалі губернатары |
| Гарадская | 1870 г., у Беларусі пачалася ў 1875 г. | Выбранне органаў самакіравання: гарадской думы, гарадской управы на чале з гарадскім кіраўнiком | Маёмасны цэнз; цэнз аседласці; рэлігійныя абмежаванні | Гарадскі кіраўнік не выбіраўся, а прызначаўся губернатарам (МУС); абмяжоўвалася прадстаўніцтва яўрэяў |
| Ваенная | 1862 г. | Адмена рэкрутчыны і ўвядзенне з 20-гадовага ўзросту ўсеагульнай воінскай павіннасці. Тэрмін службы – 6–7 гадоў, на флоце да 8. Створана Віленская ваенная акруга | Бяспраўнае становішча салдат; прымяняліся цялесныя пакаранні | |
| Школьная | 1864 г. | Усесаслоўнасць навучання; розныя тыпы навучальных устаноў | Утрыманне школьных устаноў за кошт насельніцтва; высокая плата за навучанне ў гімназіях і ВНУ | Руская мова навучання; грамадства не дапускалася да кіравання школамі; ма-ла земскіх школ |
| Цэнзурная | 1865 г. | Творы вялікіх памераў (звыш 20 друк. арк.) і выданні навуковых устаноў не падлягалі цэнзуры | Захавалася цэнзура газет і часопісаў | Выданні на беларускай мове не дазваляліся; абмяжоўваліся магчымасці ствараць новыя перыядычныя выданні |

## Змены ў сістэме адукацыі




## Становішча сельскай гаспадаркі на Беларусі ў другой палове XIX ст.

Шлях развіцця капіталізму – «прускі», з існаваннем памешчыцкага землеўладання і латыфундый



## Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі









## Прамысловасць Беларусі другой паловы XIX ст.

**Асаблівасці развіцця:**

– спецыялізацыя на перапрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай сыравіны (вінакурэнне, дрэваапрацоўка і інш.);

– размяшчэнне пераважна ў сельскай мясцовасці;

– вялікая доля рамеснай і мануфактурнай вытворчасці;

– перавага дробных прадпрыемстваў.




У 1900 г. на адно прадпрыемства ў сярэднім прыходзілася каля 40 рабочых. Найбуйнейшае – тытунёвая фабрыка Шарашэўскага ў Гродне.

■ *Прырост прадукцыі*

## Урбанізацыя




## Асноўныя сродкі зносін у сярэдзіне XIX ст.






*Аўгустоўскі канал*

## Чыгуначная сетка ў Беларусі 1862–1902 гг.



## Плыні ў паўстанні 1863–1864 гг.

| Палітычныя накірункі | «Чырвоныя» | | «Белыя» |
|---|---|---|---|
| | «Левыя» – рэвалюцыянеры-дэмакраты | «Правыя» – памяркоўныя | |
| Нацыянальнае пытанне | Права народаў на самавызначэнне | Аднаўленне Рэчы Паспалітай і ВКЛ у межах 1772 г. | Аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. |
| Аграрнае пытанне | Ліквідацыя памешчыцкага землеўладання, надзяленне сялян зямлёй без выкупу | Захаванне маёнткаў шляхты і аплата за кошт дзяржавы выдзеленай для сялян зямлі. Адмена часоваабавязанага стану і выкупных плацяжоў | Сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні не прадугледжваліся |
| Тактыка (сродкі) барацьбы | Сялянская (народная) рэвалюцыя Узброенае паўстанне | Арганізацыя агульнанацыянальнага польскага паўстання | Мірныя сродкі (калектыўныя заявы на імя цара, маніфесты і інш.). Разлік на падтрымку з боку ўрадаў заходніх краін |
| Сацыяльны склад | Дробная і беззямельная шляхта, гарадскія нізы, афіцэры, інтэлігенцыя, студэнцтва, часткова сялянства | | Землеўласніцкая шляхта, сярэдняя буржуазія, частка інтэлігенцыі |

## Ход паўстання

| Дата | Асноўныя падзеі |
|---|---|
| 1 | 2 |
| 1861 г. | Фарміраванне дзвюх плыняў нацыянальна-вызваленчага руху |
| чэрвень 1862 г. – май 1863 г. | Выданне К. Каліноўскім газеты «Мужыцкая праўда» |
| 1862 г. | Утварэнне Цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК) у Варшаве і Літоўскага правінцыяльнага камітэта ў Вільні |
| студзень 1863 г. – 1864 г. | Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі |
| студзень 1863 г. | Адозва ЛПК з заклікам да паўстання. Маніфест Часовага правінцыяльнага ўрада аб надзяленні сялян зямлёй. Узнікненне першых партызанскіх атрадаў у заходніх паветах Беларусі |

| 1 | 2 |
|---|---|
| 1863 г. | Захоп паўстанцамі г. Пружаны (люты), бітва каля в. Мілавічы Слонімскага павета (22 мая). Дзейнасць К. Каліноўскага. Праціздзеянне «белых». Рэарганізацыя Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі ў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы |
| 1863 г., вясна – лета | Найвышэйшы ўздым паўстання на тэрыторыі Літвы і Беларусі |
| 1863 г., восень | Затуханне паўстання |
| 1864 г., студзень | Арышт К. Каліноўскага і пакаранне яго смерцю |

## Палітычныя партыі ў Расіі ў пачатку ХХ ст.

| Назва лагера | Дэмакратычны, рэвалюцыйны | Буржуазна-ліберальны | Кансерватыўны, манархічны (урадавы) |
|---|---|---|---|
| Палітычныя партыі і арганізацыі | Бунд, РСДРП (бальшавікі, меншавікі), ПСР (эсэры), БСГ | «Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя» (кадэты), «Саюз 17 кастрычніка» (акцябрысты) | «Саюз рускага народа», «Руская манархічная партыя», «Рускі ўскраінны саюз» |
| Сацыяльны склад | Рэвалюцыйная інтэлігенцыя, рабочыя, сяляне | Ліберальная інтэлігенцыя, гарадскія сярэднія слаі, буржуазія, частка памешчыкаў | Вышэйшыя ўрадавыя колы, памешчыкі, духавенства, частка буйнай буржуазіі |
| Праграмныя патрабаванні па нацыянальных і аграрных пытаннях | Прызнанне права нацый на самавызначэнне. Ліквідацыя прыватнай уласнасці (у першую чаргу памешчыцкага землеўладання), перадача ўсёй зямлі ва ўласнасць народа | Прызнанне раўнапраўя ўсіх народаў Расіі. Увядзенне права нацый на культурнае самавызначэнне. Захаванне памешчыцкага землеўладання | Падтрымка лозунга «адзінай і недзялімай Расійскай імперыі». Захаванне памешчыцкага землеўладання |
| Асноўныя палітычныя мэты | Звяржэнне самадзяржаўя, устанаўленне дэмакратычнай рэспублікі шляхам склікання Устаноўчага сходу (парламента) | Абмежаванне манархіі канстытуцыйнымі межамі, прадстаўленне грамадзянскіх правоў і свабод | Захаванне і ўмацаванне самадзяржаўя |
| Тактыка | Рэвалюцыйная (не выключаючы ўзброенага паўстання) | Парламенцкая барацьба | Барацьба з лібераламі і рэвалюцыянерамі ўсімі магчымымі сродкамі |

## Рэвалюцыя 1905–1907 гг.







Пачатак руху Расіі да канстытуцыйнай манархіі і прававой дзяржавы

## Дзяржаўныя Думы ў Расіі

| Перыяд працы | Партыйна-палітычны склад | Кіраўніцтва | Асноўныя пытанні |
|---|---|---|---|
| 24 красавіка – 8 ліпеня 1906 г. – I Дзяржаўная Дума | Усяго 499 дэпутатаў, з іх: 161 – кадэты, 97 – трудавікі, 70 – партыя саюза аўтанамістаў (група заходніх акраін, польская, літоўская і інш.), 17 – сацыял-дэмакраты і інш. | Старшыня – С. А. Мурамцаў (кадэт) | • аграрнае пытанне;<br>• праблема стварэння «адказнага перад Дзяржаўнай Думай Міністэрства»; усё адхілена вярхоўнай уладай, Дума распушчана |
| 20 лютага – 2 чэрвеня 1907 г. – II Дзяржаўная Дума | Усяго 518 дэпутатаў, з іх: 104 – трудавікі, 98 – кадэты, 65 – сацыял-дэмакраты, 37 – эсэры, 76 – нацыянальныя групы і інш. | Старшыня – Ф. А. Галавін (кадэт) | • аграрнае пытанне (праекты трудавікоў, кадэтаў, сацыял-дэмакратаў);<br>• адказ падтрымаць Сталыпінскія аграрныя рэформы;<br>• 3 чэрвеня 1907 г. – уводзіцца новы выбарчы закон |
| 1 лістапада 1907 г. – 9 чэрвеня 1912 г. – III Дзяржаўная Дума | Усяго 442 дэпутаты, з іх: 136 – акцябрысты, 90 – нацыяналісты, 51 – правыя, 53 – кадэты, 19 – сацыял-дэмакраты, 26 – нацыянальныя групы і інш. | Старшыні:<br>М. А. Хамякоў (акцябрыст, 1907–1910);<br>А. І. Гучкоў (акцябрыст, 1910–1911);<br>М. У. Радзянка (акцябрыст, 1911–1912) | • зацверджана аграрнае заканадаўства па рэформе Сталыпіна (1910);<br>• прынята рабочае заканадаўства;<br>• абмежавана аўтаномія Фінляндыі |
| 15 лістапада 1912 г. – 6 кастрычніка 1917 г. – IV Дзяржаўная Дума | Усяго 442 дэпутаты, з іх: 98 – акцябрысты, 88 – нацыяналісты, 65 – правыя, 52 – кадэты, 14 – сацыял-дэмакраты, 21 – нацыянальныя групы і інш. | Старшыня – М. У. Радзянка (акцябрыст, 1912 –1917) | • падтрымку ўдзелу Расіі ў Першай сусветнай вайне;<br>• стварэнне т. зв. «Прагрэсіўнага блока» (1915) і яго канфрантацыя з урадам |

## Сталыпінская аграрная рэформа

**Прычыны:**

- нявырашанасць аграрнага пытання, існаванне феадальных перажыткаў;
- актывізацыя сялянскага руху, падтрымка сялянамі рэвалюцыі 1905–1907 гг.

**Мэты і задачы рэформы:**

- эканамічныя: забяспечыць умовы паскоранага развіцця краіны, вырашыць праблему малазямелля сялян, пераадолець адсталасць расійскай вёскі;
- палітычныя: раскол вёскі на беднае і заможнае сялянства, ліквідацыя агульнасялянскага «фронту» барацьбы супраць памешчыкаў, паскарэнне стварэння з ліку заможнага сялянства сельскай буржуазіі як апоры самадзяржаўя;
- разбурэнне

**Ініцыятар рэформы:** Прэм'ер-Міністр і Міністр Унутраных Спраў П. А. Сталыпін (з 1906 г., у 1902–1903 гг. Гродзенскі губернатар).
**Пачатак рэформы:** указ Мікалая І ад 9 лістапада 1906 г. аб зменах у сялянскім землеўладанні. Праводзілася на працягу 1906–1911 гг.

## Шляхі вырашэння сялянскага пытання

- разбурэнне сялянскай абшчыны; атрыманне сялянамі права на надзел зямлі ў асабістую уласнасць;
- прадстаўленне крэдыту

- стварэнне хутароў і водрубаў;
- перасяленне без- і малазямельных сялян на ўскраінныя раёны Расійскай імперыі

## Асаблівасці рэформы ў Беларусі

- разбурэнне сялянскай абшчыны праходзіла больш хуткімі тэмпамі, чым у Расіі;
- больш высокі працэнт хутарызацыі (12 % супраць 10 % ва ўсёй Расіі);
- у Беларусі два тыпы землеўладання: абшчыннае (Віцебская і Магілёўская губ.) і падворнае (Віленская, Мінская, Гродзенская губ.)

**Прычыны Першай сусветнай вайны**
**(28 ліпеня 1914 г. – 11 лістапада 1918 г.)**

- Імкненне да паслаблення дзяржаў-канкурэнтаў у эканамічным і ваенным развіцці
- Паўсюднае ўзмацненне нацыяналістычных настрояў
- Супярэчнасці з-за калоній, сфер уплыву і рынкаў збыту
- Імкненне вырашыць з дапамогай вайны ўнутраныя праблемы

**Антанта** – ваенна-палітычны блок Расіі, Англіі і Францыі, склаўся ў 1904–1907

**Траісты саюз** – ваенна-палітычны блок Германіі, Аўстра-Венгрыі і Італіі, склаўся ў 1879–1882




**Наступствы Першай сусветнай вайны ў Беларусі**

- Ваеннае становішча
- Баявыя дзеянні
- Нямецкая акупацыя
- Масавае бежанства
- Рэквізіцыі
- Мабілізацыя ў армію
- Эканамічны заняпад

**Агульныя вынікі вайны**

- спынілі сваё існаванне чатыры імперыі: Расійская, Аўстра-Венгерская, Асманская і Германская;
- краіны-ўдзельніцы страцілі каля 12 млн. чалавек забітымі (з улікам мірных жыхароў), каля 55 млн. былі паранены

# Раздзел 3. САВЕЦКАЯ МАДЭЛЬ МАДЭРНІЗАЦЫІ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## Рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў лютым – кастрычніку 1917 г.

| | Люты 1917 г. | Кастрычнік 1917 г. |
|---|---|---|
| Пытанне аб уладзе | Звяржэнне самадзяржаўя, узнікненне двоеўладдзя (Часовы ўрад і Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў), скліканне Установчага сходу, абвяшчэнне Расіі дэмакратычнай рэспублікай | Пераход улады да Саветаў у выніку ўзброенага паўстання ва ўмовах няздольнасці Часовага ўрада пераадолець крызіс, абвяшчэнне рэспублікі Саветаў |
| Пытанне аб міры | Пазіцыя Часовага ўрада весці вайну да пераможнага канца | Патрабаванне бальшавікоў заключыць мір без анексій і кантрыбуцый |
| Пытанне аб зямлі | Захаванне памешчыцкага землеўладання | Перадача зямлі ў рукі Саветаў сялянскіх дэпутатаў |
| Нацыянальнае пытанне | Часовы ўрад падтрымліваў ідэю «вялікай і непадзельнай Расіі». Права на дзяржаўнае аддзяленне было прызнана па знешнепалітычных меркаваннях толькі за польскім народам. Канчатковае вырашэнне пытання адкладвалася да рашэння Установчага сходу | Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі, іх права на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы |

## Фарміраванне дзяржаўнасці Беларусі

| Напрамкі нацыянальнага руху | Патрабаванні па нацыянальным пытанні | Вынікі дзейнасці |
|---|---|---|
| Нацыянальна-дэмакратычны *(А. Луцкевіч, А. Смоліч, Я. Лёсік, Я. Варонка, В. Ластоўскі)* | Стварэнне самастойнай, незалежнай ад савецкай Расіі, беларускай дзяржавы | Скліканне Усебеларускага з’езда, абвяшчэнне незалежнасці БНР |
| Сацыялістычны на савецкай аснове *(А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, В. Кнорын)* | Самавызначэнне (аўтаномія) Беларусі ў складзе РСФСР | Утварэнне ССРБ, ЛітБелССР |

## Этапы станаўлення беларускай дзяржаўнасці

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| З'езды беларускіх нацыянальных арганізацый | I Усебеларускі з'езд | Рада і Выканаўчы камітэт Усебеларускага з'езда | I з'езд КП(б)Б, I Усебеларускі з'езд Саветаў | Сход кіруючых работнікаў партыйных і савецкіх органаў |
| сакавік, ліпень 1917 г. | снежань 1917 г. | люты – сакавік 1918 г. | студзень – люты 1919 г. | ліпень 1920 г. |
| Рашэнне дабівацца дзяржаўна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі | Утварэнне Усебеларускага Савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў | Абвяшчнне БНР і яе незалежнасці | Утварэнне ССРБ, стварэнне ЛітБелССР | Другое абвяшчэнне незалежнасці СССРБ |

- **1 студзеня 1919 г.** – абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь (ССРБ) у складзе Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай губерняў, часткі паветаў Віленскай, Ковенскай і Смаленскай губерняў;
- **16 студзеня 1919 г.** – па рашэнні ЦК РКП (б) Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні адышлі да РСФСР;
- **люты 1919 г.** – астатняя частка тэрыторыі ССРБ была аб'яднана з Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай Літвы ў Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (ЛітБелССР). У яе ўвайшлі Віленская, Мінская, частка тэрыторыі Гродзенскай і Ковенскай губерняў;
- **да канца лета 1919 г. –** практычна ўся тэрыторыя ЛітБел была занята польскімі войскамі, і рэспубліка фактычна спыніла існаванне;
- **31 ліпеня 1920 г.** – была адноўлена Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР) у складзе 6 паветаў былой Мінскай губерні: Бабруйскага, Барысаўскага, Ігуменскага (з 1923 г. Чэрвеньскі), Мазырскага, часткова Мінскага і Слуцкага;
- **сакавік 1924 г.** – I узбуйненне БССР у выніку вяртання ўсходнебеларускіх тэрыторый са складу РСФСР. У яе склад увайшлі паветы Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў, у якіх пераважала беларускае насельніцтва;
- **снежань 1926 г.** – II узбуйненне БССР. У склад рэспублікі з РСФСР перададзены Гомельскі і Рэчыцкі паветы Гомельскай губерні.

Тэрыторыю БССР гл. на карце «Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Савецкай Беларусі. 1921–1926 гг.».

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Савецкай Беларусі 1921–1926 гг.**



## Магчымыя шляхі аб’яднання савецкіх рэспублік

| | | |
|---|---|---|
| Шлях «аўтанамізацыі» | І. В. Сталін | Усе савецкія рэспублікі павінны былі абвясціць сябе састаўнымі часткамі РСФСР і ўвайсці ў яе склад |
| Шлях «сацыялістычнага федэралізму» | У. І. Ленін | Свабоднае ўваходжанне ўсіх савецкіх рэспублік у Саюз, захаванне іх суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці, раўнапраўе, права выхаду |

**30 снежня 1922 г.** РСФСР, УССР, БССР, ЗСФСР падпісалі Дэкларацыю і Дагавор аб стварэнні СССР

У. Ленін і І. Сталін у Горках, 1922 г.

Суверэнітэт – палітычная незалежнасць і самастойнасць дзяржаўнай улады ва ўнутранай і знешняй палітыцы, якая не дапускае замежнага ўмяшальніцтва



## Саюзныя рэспублікі ў складзе СССР



1. Азербайджанская ССР
2. Армянская ССР
3. Беларуская ССР
4. Грузінская ССР
5. Казахская ССР
6. Кіргізская ССР
7. Латвійская ССР
8. Літоўская ССР
9. Малдаўская ССР
10. Расійская СФСР
11. Таджыкская ССР
12. Туркменскі ССР
13. Узбекская ССР
14. Украінская ССР
15. Эстонская ССР




*Парадак алфавітны, нумары па карце*

## Саюзныя рэспублікі ў складзе СССР

| Рэспубліка | Год уваходжання ў склад СССР | Умовы ўваходжання |
|---|---|---|
| Туркменская ССР | 1924 г. | Вылучэнне са складу РСФСР і Бухарскай ССР |
| Узбекская ССР | 1925 г. | Вылучэнне са складу РСФСР, Бухарскай ССР і Харэзмскай Народнай Савецкай Рэспублікі |
| Таджыкская ССР | 1929 г. | Вылучэнне са складу Узбекскай ССР |
| Азербайджанская ССР | I936 г. | Выхад з ЗСФСР |
| Армянская ССР | 1936 г. | Выхад з ЗСФСР |
| Грузінская ССР | 1936 г. | Выхад з ЗСФСР |
| Казахская ССР | 1940 г. | Выхад з РСФСР |
| Кіргізская ССР | 1940 г. | Выхад з РСФСР |
| Карэла-Фінская ССР (з 1956 г. – Карэльская АССР у складзе РСФСР) | 1940 г. | Далучэнне Карэльскага перашэйка і Паўночнага Прыладажжа да Карэльскай АССР пасля савецка-фінскай вайны |
| Малдаўская ССР | 1940 г. | Далучэнне Бесарабіі і Паўночнай Букавіны са згоды Румыніі пасля адпаведнай ноты СССР |
| Літоўская ССР | 1940 г. | Далучэнне згодна з ультыматумам СССР літоўскаму ўраду |
| Латвійская ССР | 1940 г. | Далучэнне згодна з ультыматумам СССР латвійскаму ўраду |
| Эстонская ССР | 1940 г. | Далучэнне згодна з ультыматумам СССР эстонскаму ўраду |

## Асаблівасці пасляваеннай сітуацыі ў БССР



## Нэп складалася з шэрагу наступных рэформ

| | |
|---|---|
| Аграрная | Канчатковае пераразмеркаванне памешчыцкай зямлі, пераход ад харчразвёрсткі да харчпадатку (1921 г.) |
| Прамысловая | Падтрымка дробных уласнікаў, арандатараў і канцэсіянераў, пераход буйных прадпрыемстваў да самаакупнасці, пераход да здзельнай аплаты працы (1923 г.), стварэнне трэстаў і сіндыкатаў |
| Банкаўская | Аднаўленне Дзяржбанка, стварэнне акцыянерных і камерцыйных банкаў (1921 г.), адмена абмежаванняў на захоўванне банкамі грашовых сум прыватных асоб і арганізацый, гарантыя тайны ўкладанняў |
| Фінансавая | Увядзенне саўзнакаў і забяспечанага золатам чырвонца (1922–1924 гг.) |
| Гандлёвая | Дзяржаўная манапалізацыя знешняга і дазвол прыватнага і кааператыўнага гандлю на ўнутраным рынку |

### Вынікі і значэнне новай эканамічнай палітыкі

- нэп садзейнічаў стабілізацыі эканомікі, паляпшэнню матэрыльнага становішча насельніцтва;
- да 1927 г. была поўнасцю адноўлена сельская гаспадарка;
- было пабудавана 106 новых прадпрыемстваў, рэканструяваны старыя;
- у адпаведнасці з планам ГОЭЛРО (1920 г.) да сяр. 1920-х гг. пабудавана больш за 20 электрастанцый;
- да 1927 г. узровень развіцця дробнай прамысловасці перавысіў даваенны

**1928 г.** – нэп канчаткова згорнуты

### Прычыны згортвання нэпа

- незадаволенасць прыхільнікаў камандных метадаў кіравання аслабленнем сваёй улады;
- незадаволенасць насельніцтва ўзбагачэннем нэпманаў, маёмасная дыферэнцыяцыя;
- пашырэнне злачыннасці, карупцыі і інш. адмоўных з’яў грамадскага жыцця;
- патрэбнасць вялікіх сродкаў на правядзенне індустрыялізацыі і паскоранага развіцця грамадства




**Асноўныя мерапрыемствы**

- уводзіліся чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і яўрэйская
- каранізацыя – вылучэнне на кіруючыя пасады прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва
- пераклад на беларускую мову дзяржаўнага апарату і Чырвонай Арміі (у 1927 г. каля 80 % дзяржслужачых валодалі беларускай мовай)
- стварэнне сістэмы вышэйшай адукацыі (адкрыта сельскагаспадарчая акадэмія ў Горках, Віцебскі ветэрынарны інстытут і інш.)
- перавод навучання ў школах на беларускую мову (у 1928 г. пераведзена каля 80 % школ)
- арганізацыя навукова-даследчай дзейнасці (у 1929 г. Інбелкульт рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук )

усебаковае развіццё беларускай культуры

## Першыя ў Беларусі

► Першы прэзідэнт АН БССР – У. Ігнатоўскі.
► Першы рэктар БДУ – У. Пічэта.
► Першы беларускі прафесар геаграфіі – А. Смоліч.
► Першы заслужаны артыст БССР – Я. Міровіч.
► Першы народны артыст БССР – У. Галубок.
► Першая беларуская савецкая опера «Вызваленне працы» кампазітар М. Чуркін (1924 г.).
► Першы нацыянальны балет «Салавей» М. Крошнера (па аднайменнай аповесці З. Бядулі).
► Першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» – рэжысёр Ю. Тарыч.

## Індустрыялізацыя і калектывізацыя ў БССР

| Дата | **Індустрыялізацыя**<br>Абвешчана на XIV з'ездзе ВКП(б) 18–31 снежня 1925 г. | **Калектывізацыя**<br>Абвешчана на XV з'ездзе ВКП(б) 2–19 снежня 1927 г., з 1929 г. – пачатак суцэльнай калектывізацыі |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| Прычыны і мэты | Нізкі ўзровень развіцця прадукцыйнасці працы, неабходнасць ствараць матэрыяльна-тэхнічную базу сацыялізму і ліквідаваць эканамічную залежнасць СССР ад замежных краін, умацаваць абараназдольнасць дзяржавы, павысіць матэрыяльны дабрабыт і культурны ўзровень насельніцтва | Неабходнасць атрымаць сродкі на правядзенне індустрыялізацыі, забяспечыць прамысловасць сельскагаспадарчай прадукцыяй, а насельніцтва – прадуктамі харчавання, павысіць прадукцыйнасць працы і эфектыўнасць аграрнага сектара эканомікі |
| Крыніцы для ажыццяўлення | Неэквівалентны абмен паміж горадам і вёскай, абмежаванне спажывецкіх патрэб насельніцтва, прымусовыя пазыкі, знешні гандаль збожжам і лесам, скарачэнне сродкаў на ўтрыманне дзяржапарату, дзяржманаполія на гандаль гарэлкай, валютай, прамыя і ўскосныя падаткі | Аб'яднанне маёмасці сялян, раскулачванне заможных сялян, закупка сельскагаспадарчай сыравіны і прадукцыі па нізкіх цэнах |
| Асноўныя мерапрыемствы | Праходзіла ў форме пяцігодак. Распрацаваны першы пяцігадовы план на 1928–1932 гг. Хуткае развіццё цяжкай прамысловасці, | Стварэнне калгасаў і саўгасаў, пашырэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскагаспадарчай вытворчасці |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | стварэнне новых галін. Будаўніцтва новых і рэканструкцыя старых прадпрыемстваў. Падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых кадраў і тэхнічнай інтэлігенцыі. Развіццё сацыялістычнага спаборніцтва | (1929 г. – Койданаўская МТС). Раскулачванне кулакоў і серадdespnякоў, канфіскацыя іх маёмасці на карысць дзяржавы. 1931 г. – створана спецыяльная камісія па раскулачванню. 1932 г. – «Закон аб ахове сацыялістычнай уласнасці» («закон аб пяці каласках»). 1938–1939 гг. – ліквідацыя хутароў |
| Асаблівасці ў Беларусі | Пераважнае развіццё прамысловасці групы «Б» – вытворчасць прадметаў спажывання. Арыентацыя на перапрацоўку мясцовай сыравіны. Фінансаванне з мясцовага і агульнасаюзнага бюджэтаў. Выкарыстанне магчымасцей саматужна-рамесніцкай вытворчасці. Правядзенне ў сціслыя тэрміны | Суправаджалася масавым і паскораным высяленнем хутарскіх гаспадарак у калгасныя цэнтры. Раскулачана 15,5 тыс. гаспадарак. Барацьба з «прышчэпаўшчынай». Узброеныя выступленні сялян (у 1930 г. іх налічвалася 500) |
| Вынікі правядзення | СССР стаў індустрыяльна-аграрнай дзяржавай, павысіўся жыццёвы ўзровень гарадскога насельніцтва. У Беларусі ўведзена ў эксплуатацыю 78 буйных прадпрыемстваў, рэспубліка ператварылася ў індустрыяльна развітую. Была ўмацавана камандна-адміністрацыйная сістэма. У 1931 г. ліквідавана беспрацоўе, у 1935 г. – карткавая сістэма продажу тавараў | Дзяржава атрымала поўны кантроль над сельскай гаспадаркай. Былі забяспечаны ўмовы для правядзення індустрыялізацыі. Сельскую гаспадарку працягвалі фінансаваць па рэшткаваму прынцыпу. Да 1958 г. у калгаснікаў не было пашпартоў |

## Будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў у БССР

| Пяцігодка | Месцазнаходжанне | Назва прадпрыемства |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| Першая (1928–1932 гг.) | Магілёў | Фабрыка штучнага валакна |
| | Віцебск | Фабрыка «КІМ» |
| | | Фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» |
| | Гомель | Завод сельскагаспадарчых машын |
| | | Дрэваапрацоўчы камбінат |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Другая (1933 – 1937 гг.) і трэцяя (1938 – 1941 гг.) | Крычаў | Цэментны завод |
| | Магілёў | Аўтарамонтны завод |
| | Мінск | Радыёзавод |
| | | Кандытарская фабрыка «Камунарка» |
| | Барысаў | Макаронная фабрыка |
| | Гомель | Кандытарская фабрыка «Спартак» |
| | | Першы шматпавярховы жылы дом |

## Планы перабудовы сельскай гаспадаркі

| План параўнання | Ленінскі кааператыўны план | Сталінскі план суцэльнай калектывізацыі |
|---|---|---|
| Мэты каапера-вання | Падняць узровень сельскай гаспадаркі, палепшыць даб-рабыт сялян | Атрымаць сродкі для пра-вядзення індустрыялізацыі |
| Сродкі дасягнення | Прынцып добраахвотнасці | Прымусовыя метады |
| Тэрмін правядзення | Паступовы пераход ад простых да найбольш скла-даных форм кааператываў – калгасаў | Паскораная суцэльная калек-тывізацыя, адразу ствараліся кал-гасы |
| Вынікі | Не быў рэалізаваны | ▪ сродкі на правядзенне інду-стрыялізацыі;<br>▪ фінансаванне вёскі па рэшт-кавым прынцыпе;<br>▪ нізкі ўзровень матэрыяльнага становішча калгаснікаў;<br>▪ ураджайнасць сельскагаспадар-чых культур, іх валавыя зборы, прадукцыйнасць жывёлагадоўлі заставаліся ў к. 1930-х гг. на ўзроўні дакалгаснай вёскі |

## Заходняя Беларусь (1921–1939 гг.)

Афіцыйная назва ў складзе Польшчы – «крэсы ўсходнія».
Тэрыторыя – 112,9 тыс. кв. км.;
Насельніцтва – 4,6 млн. чалавек, з іх 65 % – беларусы (па перапісу 1931 г.).
Падзелены на 4 ваяводствы:
- Палескае;
- Навагрудскае;
- Віленскае;
- Беластоцкае.

Пасля далучэння ў 1939 г. да БССР складалася з 5 абласцей (на студзень 1940 г.):
- Баранавіцкая вобл.;
- Беластоцкая вобл.;
- Брэсцкая вобл.;
- Вілейская вобл.;
- Пінская вобл.




*Заходняя Беларусь на сучаснай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай карце Беларусі выдзелена больш яркім колерам*

### Прамысловасць

Удзельны вес прамысловасці каля 3 %, у той час як тэрыторыя складала 24 %, а насельніцтва – 13 % ад Польшчы.

У параўнанні з БССР Заходняя Беларусь вырабляла прамысловай прадукцыі ў 9 разоў менш, хаця па тэрыторыі і колькасці насельніцтва была практычна роўнай.

Адзіная галіна прамысловасці, якая атрымала развіццё, была дрэваапрацоўчая. З 1921 г. па 1936 г. плошча лесу ў краі зменшылася на 400 тыс. га.



*Заходнебеларуская вёска, 1937 г.*

### Сельская гаспадарка

Больш 80 % насельніцтва Заходняй Беларусі займалася сельскай гаспадаркай

### Аграрная рэформа

(1920 – пач. 1930-х гг.)

- Парцэляцыя – продаж часткі памешчыцкай і дзяржаўнай зямлі невялікімі кавалкамі праз зямельны банк.
- Камасацыя – звядзенне ў адзін надзел дробных сялянскіх палосак з адначасовым высяленнем на хутар.
- Ліквідацыя сервітутаў – сумеснае карыстанне сялянамі і памешчыкамі, выганамі, сенакосамі, пашамі і інш.
- Асадніцтва – насаджэнне каланістаў, большасць з якіх складалі былыя польскія вайскоўцы, якім зямельныя надзелы ў 15–45 га даваліся бясплатна або за невялікую плату

## Кірункі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі

| Рэвалюцыйна-вызваленчы | Нацыянальна-дэмакратычны |
|---|---|
| Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ, створана ў 1923 г. як частка КПП). *І. Лагіновіч, А. Славінскі, С. Прытыцкі*<br><br>Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ, створаны ў 1924 г.). *В. Харужая*<br><br>Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя (БРА, вылучылася з беларускіх эсэраў). *І. Лагіновіч*<br><br>Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ, аформілася ў 1926 г.). *Б. Тарашкевіч* | Беларускія дэпутаты-паслы, выбраныя ў польскі сейм. *Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, І. Дварчанін, П. Валошын*<br><br>Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД, створана ў 1917 г., перайменавана ў Беларускае народнае аб’яднанне ў 1936 г.). *А. Станкевіч*<br><br>Таварыства Беларускай школы (ТБШ, створана ў 1921 г.). *Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі* |

# Раздзел 4. ГЕАПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XX СТ.

## Маштабы і выдаткі дзвюх сусветных войнаў

| Паказчыкі | Войны XX ст. | |
|---|---|---|
| | Першая сусветная | Другая сусветная |
| Працягласць вайны | 1564 дні (4 гады і 3,5 месяцы) | 2195 дзён (6 гадоў) |
| Колькасць краін-удзельнікаў вайны | 33 | 61 |
| Колькасць насельніцтва краін-удзельнікаў вайны | 75 % насельніцтва свету | звыш 80 % насельніцтва свету |
| Нейтральныя краіны | 17 | 6 |
| Колькасць загінуўшых | 10 млн. | больш за 50 млн. |
| Колькасць параненых | 20 млн. | 35 млн. |
| Колькасць краін, на тэрыторыі якіх праходзілі ваенныя дзеянні | 14 | 40 |
| Колькасць прызваных у дзеючую армію | звыш 73 млн. | 110 млн. |

## Прычыны Другой сусветнай вайны

**Эканамічныя супярэчнасці** паміж вядучымі краінамі свету, барацьба за калоніі, рынкі збыту, сферы прылажэння капіталу

**Палітычныя супярэчнасці** – перагляд Версальска-Вашынгтонскай сістэмы

**Ідэалагічныя фактары** – распальванне нацыяналізму, які прымаў формы расізму і шавінізму

1 верасня 1939 г. – гітлераўская армія напала на Польшчу

3 верасня 1939 г. – вайну Германіі аб'явілі Англія і Францыя, Аўстралія, Індыя, Канада, Новая Зеландыя і Паўднёва-Афрыканскі саюз

16 верасня 1939 г. – польскі ўрад пакінуў краіну і эміграваў спачатку ў Румынію, пазней у Лондан

## Хроніка распаўсюджвання фашысцкай агрэсіі

| | |
|---|---|
| 9 красавіка 1940 г. | Акупіравана Германіяй Данія |
| 9 красавіка – 10 чэрвеня 1940 г. | Акупіравана Нарвегія |
| 14 мая 1940 г. | Капітуляцыя Нідэрландаў |
| 28 мая 1940 г. | Капітуляцыя Бельгіі |
| 22 чэрвеня 1940 г. | Падпісаны акт аб капітуляцыі Францыі |
| Жнівень 1940 г. | Захоп італьянскімі войскамі Брытанскага Самалі, часткі Кеніі і Судана |
| 27 верасня 1940 г. | Германія, Італія і Японія падпісалі Траісты пакт |
| Жнівень 1940 – май 1941 гг. | «Бітва за Англію» |
| 17 красавіка 1941 г. | Капітуляцыя Югаславіі |
| 23 красавіка 1941 г. | Капітуляцыя Грэцыі |
| 31 мая – 1 чэрвеня 1941 г. | Захоп вострава Крыт |




## План «Барбароса»




План «Барбароса» – кодавая назва (у гонар Фрыдрыха I) плана вайны фашысцкай Германіі супраць СССР. Зацверджаны 18 снежня 1940 г. У адпаведнасці з ім наступленне вялі тры групы армій: «Поўнач» – на Ленінград, «Цэнтр» – на Маскву, «Поўдзень» – на Украіну. Баявыя дзеянні планавалася завяршыць да 1 кастрычніка выхадам на рубеж Архангельск – Волга, т. зв. стратэгія «Бліцкрыгу».

## Арганізацыя абароны краіны

| | |
|---|---|
| 22–23 чэрвеня 1941 г. | Уведзена ваеннае становішча на тэрыторыі пагранічных рэспублік. Мабілізацыі падлягалі ваеннаабавязаныя мужчыны 1905–1918 гг. нараджэння |
| 23 чэрвеня 1941 г. | Створана Стаўка Галоўнага Камандавання на чале з наркомам абароны СССР С. Цімашэнка |
| 24 чэрвеня 1941 г. | Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб стварэнні Савета па эвакуацыі» |
| 29 чэрвеня 1941 г. | Дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей |
| 30 чэрвеня 1941 г. | Стварэнне Дзяржаўнага камітэта абароны (ДКА) на чале з І. Сталіным |
| 16 ліпеня 1941 г. | У войсках адноўлены інстытут ваенных камісараў |
| 18 ліпеня 1941 г. | Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск» |

## Баявыя дзеянні ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі

| Перыяд абароны | Месца абароны | Яны трымалі абарону |
|---|---|---|
| 22 чэрвеня – 20 ліпеня 1941 г. | Брэсцкая крэпасць | 4 тыс. байцоў Брэсцкай пагранічнай заставы (П. Гаўрылаў, І. Зубачоў, А. Кіжаватаў, Я. Фамін і інш.) амаль месяц стрымлівалі націск звыш 40 тыс. нямецкіх войскаў |
| 25–28 чэрвеня 1941 г. | Мінск | 100-я стралковая дывізія (І. Русіянаў, А. Маўрычаў і інш.) упершыню ў гады вайны выкарысталі т. зв. «шкляную артылерыю» |
| 22 чэрвеня 1941 г. | Гродна | А. Данілаў уступіў у адзінаборства з 9 нямецкімі самалётамі, два збіў і тараніў трэці |
| 26 чэрвеня 1941 г | Радашковічы | М. Гастэла, А. Маслаў – здзейснілі наземныя тараны |
| 14 ліпеня 1941 г. | Орша | упершыню прыменены «Кацюшы» (І. Флёраў) |
| 5–11 ліпеня 1941 г. | Орша – Віцебск | «Лепельскі контрудар» – адзін з буйнейшых танкавых баёў у пачатковы перыяд вайны, у якім з абодвух бакоў было задзейнічана каля 1600 баявых машын. Ворага ўдалося адкінуць на 40 км. (І. Аляксеенка, В. Вінаградаў, П. Курачкін) |
| 3–26 ліпеня 1941 г. | Абарона Магілёва | На Буйніцкім полі вызначыўся стралковы полк пад камандаваннем палкоўніка С. Куцепава. Толькі за адзін дзень баёў было знішчана 39 варожых танкаў. Куцепаў стаў прататыпам генерала Сярпіліна ў рамане К. Сіманава «Жывыя і мёртвыя» |
| 13–30 ліпеня 1941 г. | Жлобін – Рагачоў | Войскі пад камандаваннем генерала Л. Пятроўскага фарсіравалі Днепр і часова вызвалілі Жлобін і Рагачоў |
| 12–19 жніўня 1941 г. | Абарона Гомеля | Пры абароне горада здзейсніў свой першы паветраны таран лётчык Б. Коўзан – адзіны ў свеце лётчык, які зрабіў чатыры паветраныя тараны і застаўся жывы |

## Генеральны план «Ост»

План нацысцкага кіраўніцтва Германіі па каланізацыі і германізацыі тэрыторыі Усходняй Еўропы, у тым ліку БССР. Быў распрацаваны да 1940 г., але пазней змяняўся і дапаўняўся. Тэкст дакумента быў знойдзены ў федэральным архіве Германіі ў канцы 1980-х, апублікаваны ў 2009 г.




## Колькасць насельніцтва, вывезенага гітлераўцамі з часова акупаванай тэрыторыі СССР на работы ў Германію

| Рэспублікі | Колькасць вывезеных у Германію, чал. |
|---|---|
| РСФСР | 1906661 |
| Украінская ССР | 2402234 |
| Беларуская ССР | 399374 |
| Літоўская ССР | 160019 |
| Латвійская ССР | 279615 |
| Эстонская ССР | 74226 |
| Малдаўская ССР | 47242 |
| Карэла-Фінская ССР | 142 |
| Усяго | 5269413 |

1 

2 
3 
4 

*Значкі, якія насілі савецкія грамадзяне, выгнаныя ў Германію:*
*1 – агульны для ўсіх грамадзян; 2 – для рускіх; 3 – для беларусаў; 4 – для ўкраінцаў*

# Канцлагеры

- Асвенцым (Польшча)
- Бухенвальд  (Германія)
- Дахау (Германія)
- Заксенхаўзен (Германія)
- Майданек (Польшча)
- Маўтхаўзен (Аўстрыя)
- Трэблінка (Польшча)

Ахвярамі канцлагераў сталі звыш 11 млн. грамадзян СССР, Польшчы, Францыі, Бельгіі, Чэхаславакіі і інш.

На Беларусі створана больш 260 лагераў смерці, ахвярамі якіх стала больш за 1,4 млн. чалавек

- Азарычы (Беларусь)
- Бронная гара (Беларусь)
- Дразды (Беларусь)
- Лясная (Беларусь)
- Лупалава (Беларусь)
- Масюкоўшчына (Беларусь)
- Трасцянец (Беларусь)








*Паўсядзённае жыццё ў канцэнтрацыйным лагеры*



**Гета** – у гады Вялікай Айчыннай вайны раёны гвалтоўнай ізаляцыі яўрэяў. На Беларусі было больш за 100 гета. Самыя вялікія ў Мінску (100 тыс. чал.), Брэсце (34 тыс. чал.), два ў Бабруйску (20 тыс.), Віцебску (20 тыс.). За гады акупацыі ў Беларусі загінула каля 400 тыс. яўрэяў.

Усяго было створана па розных дадзеных ад 800 і больш за 1000 гета, ахвярамі якіх сталі не менш 1 млн. яўрэяў. Найбольш буйныя: Варшаўскае (450 тыс. чал.), Лодзінскае (204 тыс. чал.), Львоўскае (100 тыс. чал.) і Мінскае. Па-за межамі Еўропы – Шанхайскае гета, дзе японскія саюзнікі Германіі ўтрымлівалі яўрэяў Шанхая.







*Паўсядзённае жыццё ў гета*

## Дынаміка карных аперацый на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны




За гады акупацыі было праведзена больш за 140 карных аперацый, знішчана 5295 населеных пунктаў, у тым ліку 628 – разам з жыхарамі. Найбольш жорсткімі былі – аперацыя «Арол» (ліпень – жнівень 1942 г.), «Балотная ліхаманка» (жнівень – верасень 1942 г.), «Котбус» (май – чэрвень 1943 г.), «Зімовы лес» (снежань – студзень 1943 г.).

## Арганізацыя партызанскага руху на Беларусі

| | |
|---|---|
| Чэрвень – ліпень 1941 г. | Пачалі дзейнічаць партызанскія атрады Камарова (В. Корж, Пінская вобл.), «Бацькі Міная» (М. Шмыроў, Віцебская вобл.), «Чырвоны кастрычнік» (Ц. Бумажкоў, Ф. Паўлоўскі, Гомельская вобл.) |
| Ліпень – верасень 1941 г. | У рэспубліцы сфарміравана звыш 430 партызанскіх атрадаў і груп колькасцю больш за 8 тыс. чалавек |
| Восень 1941 г. | Створаны падпольныя арганізацыі і групы ў Мінску (К. Грыгор'еў, І. Казінец, С. Заяц і інш.); на Аршанскім чыгуначным вузле (К. Заслонаў); у Віцебску (В. Харужая) |
| Вясна 1942 г. | Фарміруюцца першыя партызанскія брыгады (1-я Беларуская і «Аляксея» на Віцебшчыне) |
| Май 1942 г. | Ствараецца Цэнтральны штаб партызанскага руху на чале з П. Панамарэнка |
| Верасень 1942 г. | Ствараецца Беларускі штаб партызанскага руху на чале з П. Калініным |
| 1943 г. | Народныя мсціўцы кантралявалі 60 % тэрыторыі рэспублікі, дзе было створана больш за 20 партызанскіх зон (Ушацкая, Барысаўска-Бягомльская, Клічаўская і інш.) |

## Этапы «рэйкавай вайны» на Беларусі

| | |
|---|---|
| 1. 3 жніўня – верасень 1943 г. – аперацыя «Акорд». Мэта – садзейнічаць контрнаступленню Чырвонай Арміі пад Курскам | Пад адхон было пушчана 833 варожыя эшалоны, 3 бронепаязды, узарвана 184 чыгуначныя масты і 556 мастоў на аўтамабільных дарогах, знішчана 400 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі |
| 2. 19 верасня – пачатак лістапада 1943 г. – аперацыя «Канцэрт» | Падарвана 90 тыс. чыгуначных рэек, 1041 эшалон, 72 чыгуначныя масты |
| 3. 20 чэрвеня – 28 ліпеня 1944 г. Мэта – садзейнічаць савецкім войскам падчас аперацыі «Баграціён» | Падарвана 61 тыс. рэек, знішчана 8 чыгуначных мастоў, цалкам выведзены са строю асноўныя чыгуначныя лініі, часткова паралізаваны варожыя перавозкі па ўсіх дарогах Беларусі |

## Кароткая даведка

- У радах антыфашысцкага руху на тэрыторыі рэспублікі ўдзельнічала каля 444 тыс. партызан і падпольшчыкаў;
- Дзейнічала 1255 партызанскіх атрадаў, аб’яднаных у 213 брыгад;
- У тыле ворага выдавалася 170 падпольных газет, тыраж якіх налічваў мільёны экзэмпляраў, было выдадзена і распаўсюджана 28,5 млн. лістовак;
- За гераізм і адвагу каля 140 тыс. партызан і падпольшчыкаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, 87 з іх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

## Героі Савецкага Саюза

| | |
|---|---|
| А. Р. Мазанік,<br>М. Б. Осіпава, Н. В. Траян,<br>г. Мінск | 23 верасня 1943 г. здзейснілі забойства генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ |
| Е. Зянькова, З. Партнова,<br>п. Обаль Віцебская вобл. | Героі Савецкага Саюза – камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы» |
| Ф. Крыловіч, г. Асіповічы | 30 ліпеня 1943 г. здзейсніў адну з самых буйных дыверсій Другой сусветнай вайны. Былі знішчаны чатыры эшалоны, у тым ліку адзін з новымі танкамі «тыгр» і бронемашынамі, два – з боепрыпасамі, авіябомбамі, прадуктамі і адзін – з гаручым |
| К. Заслонаў, г. Орша | Дыверсійная дзейнасць на чыгунцы |

**Аперацыя «Баграціён»** – кодавая назва стратэгічнай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі па вызваленні Беларусі. Праходзіла з 23 верасня па 29 жніўня 1944 г. У выніку аперацыі была вызвалена Беларусь, большая частка Літвы, частка Латвіі, усходнія раёны Польшчы. У правядзенні ўдзельнічалі войскі 1-га Прыбалтыйскага (камандзір І. Х. Баграмян), 1-га Беларускага (К. К. Ракасоўскі), 2-га Беларускага (Г. Ф. Захараў), 3-га Беларускага (І. Д. Чарняхоўскі), Дняпроўскай ваеннай флатыліі, французскага авіяпалка «Нармандыя-Нёман», партызанскія злучэнні. Каардынавалі дзеянні франтоў маршалы А. М. Васілеўскі, Г. К. Жукаў.




## Уклад беларускага народа ў перамогу над фашызмам

- Звыш 1,3 млн. жыхароў Беларусі былі мабілізаваны ў рады Чырвонай Арміі. З іх 446 удастоены звання «Герой Савецкага Саюза», чацвёра – П. Галавачоў, І. Гусакоўскі, С. Шутаў, І. Якубоўскі – удастоены гэтага звання двойчы;
- 67 салдат і сяржантаў з Беларусі сталі кавалерамі Ордэна Славы трох ступеняў.

## Воіны-беларусы на франтах Вялікай Айчыннай вайны

| | |
|---|---|
| Л. Даватар | У жніўні 1941 г. пад камандаваннем Л. Даватара буйное коннае злучэнне ўпершыню зрабіла рэйд ў тыл ворага. Гітлераўскае камандаванне прызначыла за яго галаву буйную грашовую ўзнагароду і стварыла спецыяльныя атрады для яго злову. Загінуў пры абароне Масквы |
| В. Талаліхін | Першы начны таран у небе Масквы |
| А. Гаравец | Лётчык, збіў 9 самалётаў у адным баі ў час Курскай бітвы |
| Ф. Смалячкоў | Абарона Ленінграда, снайпер. На яго асабістым баявым рахунку 125 гітлераўцаў. Загінуў 15 студзеня 1942 г. |
| Г. Дольнікаў | Баі за Днепр 1943 г., лётчык, тараніў нямецкі самалёт, але апынуўся ў фашысцкім палоне. З канцлагера ўцёк з чацвёртага разу, апынуўся у партызан. У пачатку 1944 г. вярнуўся ў свой полк. Герой Савецкага Саюза. Прататып героя аповесці М. Шолахава «Лёс чалавека» |
| З. Тусналобава-Марчанка | За 8 месяцаў знаходжання на фронце вынесла з поля бою 128 параненых. У 1943 г. была цяжка паранена, суткі праляжала сярод трупаў. Перанесла 8 аперацый, але пасля абмаражэння былі ампутаваны рукі і ногі. Навучылася зноў хадзіць і пісаць. Герой Савецкага Саюза. Трэцяя савецкая медсястра, якая была ўдастоена вышэйшай узнагароды «Чырвонага Крыжа» – медаля Флорэнс Найтынгейл |
| П. Купрыянаў | Пры вызваленні Прыбалтыкі паўтарыў подзвіг А. Матросава. Яго маці Н. Ф. Купрыянава – маці пяці сыноў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У г. Жодзіна ўзведзены манумент у гонар маці-патрыёткі |
| Н. Лісавец | За актыўны ўдзел у руху Супраціўлення ёй было прысвоена званне лейтэнанта французскай арміі |
| Ф. Кажамякін | Пасмяротна ўзнагароджаны вышэйшым французскім ордэнам Ганаровага легіёна |
| Т. Лук’яновіч | Падчас баёў у Берліне выратаваў нямецкую дзяўчынку 2–3 гадоў, а сам быў смяротна паранены. Ён сам і яго подзвіг сталі правобразам для стварэння ў Берліне помніка савецкаму салдату-вызваліцелю |

## Страты Беларусі ў Другой сусветнай вайне

разбурана і разрабавана 209 гарадоў і райцэнтраў, 9200 сёл і вёсак

вывезена ў Германію каля 399374 чалавек, не вярнулася – 275107 чалавек

загінула, па розных падліках, ад 2,5 да 3 млн. чалавек

Колькасць насельніцтва рэспублікі (млн. чалавек)




разбурана звыш 10 тыс. прадпрыемстваў – 85 % даваенных фабрык і заводаў

знішчана 98 % энергетычных магутнасцей, вывезена 90 % тэхнічнага абсталявання

пасяўныя плошчы скараціліся на 40 %; пагалоўе грамадскага статку скарацілася на 61 %, разрабавана 316 МТС



# **Раздзел 5. САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ, ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ БССР У 1945–1991 гг.**



Сталін І. В. (1922–1953 гг.) – Генеральны сакратар ЦК РКП (б) – ВКП(б), адначасова з мая 1941 г. – старшыня СНК

Панамарэнка П. К. (1938–1947 гг.) – першы сакратар ЦК КП(б)Б

Гусараў М. І. (1947–1950 гг.) – першы сакратар ЦК КП(б)Б

Паталічаў М. С. (1950–1956 гг.) – першы сакратар ЦК КПБ

## **Асноўныя накірункі і асаблівасці пасляваеннага аднаўлення БССР (1946–1950 гг. – чацвёртая пяцігодка)**

| Эканамічная сфера | Грамадска-палітычная сфера |
|---|---|
| Захаванне цэнтралізаванага планавага кіравання экономікай | Існаванне савецкай грамадска-палітычнай сістэмы |
| Пераважнае развіццё цяжкай прамысловасці | Захаванне кіруючай ролі камуністычнай партыі і культу асобы |
| Развіццё двух рознаўзроўневых рэгіёнаў (Заходняй і Усходняй Беларусі) | Павышэнне ролі Вярхоўнага і мясцовых Саветаў БССР, прафсаюзаў і камсамола |
| Апераджальныя тэмпы індустрыяльнага развіцця ў параўнанні з паказчыкамі па СССР. Стварэнне новых галін прамысловасці | Пасляваенныя рэпрэсіі |

## Асаблівасці аднаўлення гаспадаркі БССР у пасляваенны перыяд




## Адраджэнне сельскай гаспадаркі – павольнае, супярэчлівае



Адсутнасць матэрыяльнага заахвочвання працы ў калгасах, працадні, засуха 1946 г.

1948 г. – указ ВС СССР «Аб высяленні ў аддаленыя раёны асоб, якія злосна ўхіляюцца ад працоўнай дзейнасці ў сельскай гаспадарцы…»

1948–1952 гг. – правядзенне калектывізацыі ў Заходняй Беларусі

1946 г. – пастанова Савета Міністраў СССР і ЦК ВКП(б) «Аб мерах па ліквідацыі парушэнняў Статута сельскагаспадарчай арцелі ў калгасах»

1947 г. – адмена карткавай сістэмы, грашовая рэформа

1948 г. – пастанова ўрада СССР «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы БССР…»

1950 г. – узбуйненне калгасаў

1953 г. – павялічаны закупачныя цэны, спісана запазычанасць з калгасаў, зменена сістэма падаткаабкладання асабістага надзела і інш.





Аднаўленне сельскай гаспадаркі ішло даўжэй, чым прамысловасці. Момантам яго завяршэння ўмоўна лічыцца сярэдзіна 1950-х гг.

У першым квартале 1949 г. прамысловасць Беларусі дасягнула даваеннага ўзроўню, а ў 1950 г. перавысіла яго на 15 %






## Грамадска-палітычнае жыццё

Крытыка дзейнасці некаторых устаноў і творчасці асобных дзеячаў культуры (пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часопісах «Звязда» і «Ленінград» (1946 г.)» і інш.)

Рэпрэсіраваны пісьменнікі У. М. Дубоўка, С. І. Грахоўскі, П. І. Пруднікаў, А. У. Александровіч, А. Звонак

1951 г. –«Справа Саевіча» (нарком асветы абвінавачаны ў змове з «югаслаўскімі рэвізіяністамі», у трацкізме і валютных махінацыях)

Барацьба з касмапалітызмам, нізкапаклонствам перад Захадам (ашальмаваны А. Р. Жэбрак, М. І. Вавілаў)

1947 г. – працэсы ў Заходняй Беларусі па справах так званага Цэнтра беларускага вызваленчага руху, «Саюза беларускіх патрыётаў», над ксяндзамі, акаўцамі

1953–1964 гг. – першы сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў



1950–1956 гг. – першы сакратар ЦК КП(б)Б, з 1952 – ЦК КПБ – М. С. Патолічаў; 1956–1965 гг. – першы сакратар ЦК КПБ – К.Т. Мазураў

1964–1982 гг. – першы сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў



1965–1980 гг. – першы сакратар ЦК КПБ – П. М. Машэраў

1982–1984гг. – Генеральны сакратар ЦК КПСС Ю.У. Андропаў



1980–1983 гг. – першы сакратар ЦК КПБ – Ц. Я. Кісялёў

1984–1985 гг. – Генеральны сакратар ЦК КПСС К. У. Чарненка



1983–1987 гг. – першы сакратар ЦК КПБ – М. М. Слюнькоў

## Агульная характарыстыка

| | | |
|---|---|---|
| 1956–1965 гг. | Перыяд «адлігі» | Змякчэнне палітычнага рэжыму, пачатак рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, перамены ў грамадскім і культурным жыцці СССР |
| Друг. пал. 1950-х – 1970-я гг. | Станаўленне індустрыяльнага грамадства | Вызначаецца спецыялізацыяй і аўтаматызацыяй вытворчасці, арыентацыяй на рынак, НТР і урбанізацыяй |
| Друг. пал. 1960-х – перш. пал. 1980-х гг. | Перыяд паступовага наспявання застойных з'яў | Непрыняцце эканамічных метадаў кіраўніцтва, таварна-грашовых адносін, інтэнсіўных шляхоў развіцця, панаванне адміністрацыйна-каманднай сістэмы |

## Эканамічныя рэформы М. С. Хрушчова



## Асаблівасці эканамічнага развіцця Беларусі ў 1950-я – сярэдзіне 1960-х гг.

<table>
<tr><td>1951–1955 гг.</td><td>Пяты пяцігадовы план</td><td rowspan="2">Першачарговая ўвага надавалася развіццю цяжкай прамысловасці. Уступілі ў строй падшыпнікавы, гадзіннікавы, завод будматэрыялаў ў Мінску, аўтамабільны завод у Жодзіне, першая чарга Васілевіцкай ДРЭС. Сельская гаспадарка Беларусі да сярэдзіны 1950-х гг. упершыню стала рэнтабельнай</td></tr>
<tr><td>1956–1960 гг.</td><td>Шосты пяцігадовы план</td></tr>
<tr><td>1959–1965 гг.</td><td>Сямігодка</td><td>Хуткае развіццё хімічнай прамысловасці, асабліва вытворчасці мінеральных угнаенняў. У строй уведзены Салігорскі калійны камбінат, Гродзенскі азотна-тукавы, Гомельскі суперфасфатны заводы і інш. Апераджальнае развіццё неметалаёмкіх галін – прыборабудавання, электронікі</td></tr>
</table>

## Сацыяльная палітыка ў 1950–1960-я гг.

| | |
|---|---|
| Пенсіі, пашпарты калгаснікам | 1956 г. – закон аб дзяржаўных пенсіях. Пенсійны ўзрост для мужчын – 60 гадоў, для жанчын – 55. Мінімальны памер пенсіі – 30 руб., максімальны – 120 руб. З лютага 1958 г. – пашпартызацыя калгаснікаў. 1965 г. – закон аб пенсіях калгаснікам. Мінімальная пенсія – 12 руб. у месяц |
| Змяншэнне працягласці працоўнага тыдня | Пераход на 6–7 гадзінны працоўны дзень. Павелічэнне працягласці адпачынку па цяжарнасці і родам з 77 дзён да 112. Увядзенне пяцідзённага працоўнага тыдня з двума выхаднымі днямі |
| Павышэнне рэальных даходаў насельніцтва | 1956 г. – увядзенне штомесячнага грашовага авансавання працы калгаснікаў. 1958 г. – спыненне падпіскі на дзяржаўныя займы. Вызваленне сялянскіх падвор'яў ад абавязковых паставак дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі |
| Паляпшэнне аховы здароўя | У сярэдзіне 1960-х гг. сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі складала 73 гады і была ў той час адной з самых высокіх у свеце |

## Урбанізацыя






## Спыненне рэпрэсій, рэабілітацыя




## Дэмакратызацыя дзейнасці партыі



## Пашырэнне правоў саюзных рэспублік




## Павышэнне ролі Саветаў дэпутатаў працоўных



**Касманаўты Беларусі**

4 кастрычніка 1957 г. запушчаны першы штучны спадарожнік Зямлі



12 красавіка 1961 г. першы палёт чалавека ў космас (Ю. А. Гагарын (1934 – 1968 гг.))






***Клімук П. І.*** – лётчык-касманаўт (нарадзіўся ў в. Камароўка Брэсцкага раёна). Двойчы Герой Савецкага Саюза, тройчы лятаў у космас (1973, 1975, 1978). Узначальваў Расійскі цэнтр падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. Гагарына. У космасе правёў 78,8 сутак.



***Кавалёнак У. В.*** – лётчык-касманаўт СССР (нарадзіўся ў в. Белае Крупскага раёна, Мінскай вобласці). Двойчы Герой Савецкага Саюза, Герой ГДР. Правёў у космасе 216,38 сутак.

**Трэцяя праграма партыі**




- Кастрычнік 1961 г. XXII з'езд КПСС – прынята новая партыйная праграма.

МЭТА: праз 20 гадоў пабудаваць камуністычнае грамадства і «забяспечыць самы высокі жыццёвы ўзровень у параўнанні з любой іншай краінай капіталізму».

- Прыняты «Маральны кодэкс будаўніка камунізму» як эталон паводзін для грамадзян СССР.

АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ: адданасць справе камунізму, калектывізм, гуманнасць, прастата, сціпласць.

**Сакавіцкі (1965 г.) Пленум ЦК КПСС –
пастанова «Аб неадкладных мерах па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі СССР»**

увядзенне цвёрдага і нязменнага плана нарыхтовак на пяць гадоў наперад для кожнага калгаса, саўгаса, раёна, вобласці, рэспублікі

павелічэнне закупачных цэнаў на сельскагаспадарчую прадукцыю ў 1,5–2 разы; спісанне з калгасаў запазычанасцей дзяржаве

паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння калгасаў: пастаўка на вёску 1 млн. 790 тыс. трактароў, 1 млн. 100 тыс. грузавых аўтамабіляў

правядзенне меліярацыі зямель, вапнавання кіслых глебаў, паляпшэнне лугоў і пашаў

**Верасnёўскі (1965 г.) Пленум ЦК КПСС –
пастанова «Аб паляпшэнні кіравання прамысловасцю, удасканаленні планавання і ўзмацнення эканамічнага стымулявання прамысловай вытворчасці»**

удасканаленне сістэмы планавання ў прамысловасці, змяншэнне колькасці абавязковых планавых паказчыкаў

змяненне арганізацыі кіравання прамысловасцю: ліквідаванне саўнаргасаў і аднаўленне міністэрстваў па галінах прамысловасці

пашырэнне гаспадарчай самастойнасці прадпрыемстваў на аснове гаспадарчага разліку

асноўным паказчыкам работы прадпрыемстваў станавіўся аб’ём рэалізаванай прадукцыі; стварэнне фондаў матэрыяльнага стымулявання

## Восьмая пяцігодка (1966–1970 гг.) – «залатая пяцігодка»




## Вынікі эканамічнай рэформы сярэдзіны 1960-х гг.

Рэформа насіла супярэчлівы характар, так як:




Да пачатку 1970-х гг. рэформа фактычна перастала дзейнічаць.

## Індустрыяльнае развіццё БССР ва ўмовах НТР




## Грамадска-палітычнае і культурнае жыццё ў БССР (1965–1985 гг.)

- павышэнне ролі партыйна-апаратнай улады;
- рэгуляванне складу Саветаў па полу, узросту, партыйнасці, сацыяльнай прыналежнасці;
- кантроль за сродкамі масавай інфармацыі;
- безальтэрнатыўныя выбары;
- падпарадкаванне КПСС прафсаюзаў, камсамола і іншых грамадскіх арганізацый;
- рост цэнзуры, высылка з СССР дзеячаў культуры;
- 1976 г. выснова аб фарміраванні ў СССР новай гістарычнай супольнасці людзей – «савецкі народ»;
- 7 кастрычніка 1977 г. прынята новая Канстытуцыя СССР. Яна абвяшчала аб пабудове грамадства «развітога сацыялізму» у СССР. Замацавала кіруючую ролю КПСС у савецкім грамадстве

## Беларусь ў 1970-я – перш. пал. 1980-х гг.

### Перыяд «застою»








| 1971–1975 гг. (9-ы пяцігадовы план) | 1976 –1980 гг. (10-ы пяцігадовы план) | 1981–1985 гг. (11-ы пяцігадовы план) |
|---|---|---|

**Новая Канстытуцыя СССР прынята 7 кастрычніка 1977 г.**




- Абвяшчала аб пабудове грамадства «развітога сацыялізму» у СССР;
- сацыяльная база СССР – саюз рабочага класа, сялянства і інтэлігенцыі;
- замацавала кіруючую ролю КПСС у савецкім грамадстве



*Вярхоўны Савет СССР прымае Канстытуцыю 1977 г.*

## Дасягненні ў эканамічным развіцці

- Прадукцыя прамысловасці ў 1985 г. павялічылася ў параўнанні з 1970 г. больш чым у 3 разы, нацыянальны даход – у 2,5 разы. Гэта – адны з самых высокіх паказчыкаў у СССР
- У строй уведзена звыш 170 прамысловых прадпрыемстваў: нафтаперапрацоўчы завод у Мазыры, металургічны ў Жлобіне, шынны камбінат у Бабруйску і інш.
- Прамысловасць Беларусі засвоіла серыйны выпуск 2197 новых тыпаў машын (ЭВМ 3-га і 4-га пакаленняў, каляровыя тэлевізары)
- З'явіўся новы эканамічны від транспарта – трубапровадны, шэраг нафтаправодаў
- Электрафікацыя беларускай чыгункі. У 1984 г. здадзена ў эксплуатацыю першая чарга Мінскага метрапалітэна

## Праблемы

- Эканоміка страціла былы дынамізм. К пачатку 1980-х гг. былі аўтаматызаваны ці комплексна механізаваны 10–15 % прадпрыемстваў СССР
- Удзельная вага ручной працы ў прамысловасці 35–40 %, у будаўніцтве 50–55 %, у сельскай гаспадарцы 60–70 %
- Рэзка знізіліся тэмпы эканамічнага росту (у 9-й пяцігодцы – 8,3 %, у 11-й – 5,6 %)
- Рост дэфіцыту (недахопу) тавараў першай неабходнасці
- Арыентацыя на экстэнсіўны шлях развіцця: будаўніцтва БАМа, асваенне Заходняй Сібіры, паварот паўночных рэк на поўдзень і інш.

## Выпуск спецыялістаў вышэйшай адукацыі








| | 1940 г. | 1960 г. | 1970 г. | 1980 г. | 1985 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Выпуск спецыялістаў вышэйшай адукацыі | 3,2 | 10 | 20,6 | 30,7 | 31,9 |

## Гістарычная даведка



## Гістарычная даведка

Гарбачоў М. С. (11.03.1985 – 23.08.1991 гг.) –
Генеральны сакратар ЦК КПСС,
(15.03 1990 – 25.12.1991 гг.) – Прэзідэнт СССР



| Сакалоў Я. Я. (1987–1990 гг.) – першы сакратар ЦК КПБ | Малафееў А. А. (1990–1991 гг.) – першы сакратар ЦК КПБ |
|---|---|

## Курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця (1985–1986 гг.)

### Асноўныя мерапрыемствы

- Актывізацыя «чалавечага фактару» – свядомасці і працоўнай актыўнасці
- Павышэнне якасці прадукцыі за кошт узмацнення кантролю за гатовай прадукцыяй. Увядзенне дзяржпрыёмкі
- Тэхнічнае пераўзбраенне і мадэрнізацыя дзеючых прадпрыемстваў
- Зліццё міністэрстваў па кіраванню с/г і перапрацоўчай прамысловасці. Стварэнне Дзяржаграпрому

### 1985–1988 гг. – антыалкагольная кампанія

Барацьба з п’янствам і алкагалізмам пачалася ў маі 1985 г. Вытворчасць спіртнога скарацілася ў 15 разоў, ствараліся «зоны цвярозасці». Адмоўныя наступствы: на 67 млрд. руб. скараціліся паступленні ў бюджэт краіны, былі высечаны вінаграднікі, распаўсюдзілася самагонаварэнне.

## 26 красавіка 1986 г. – аварыя на Чарнобыльскай АЭС




*Асноўныя ачагі радыёактыўнага забруджвання*

## Наступствы аварыі на ЧАЭС

Пад час аварыі загінула 32 чалавекі

Страты рэспублікі склалі 32 % гадавых бюджэту (у параўнанні з 1985 г.)

20 % сельскагаспадарчых угоддзяў выведзена з абароту на 70–150 і больш гадоў

135 тыс. чалавек эвакуіравана і перасялена

Каля 2 млн. чалавек засталіся жыць з павышаным фонам радыяцыі

Пасля аварыі 16 % бюджэту штогод вылучалася на ліквідацыю яе наступстваў

## Гістарычная даведка

Аварыя на ЧАЭС нанесла ўдар па савецкай энергасістэме і ядзернай энергетыцы

Да сённяшняга дня не пабудавана ніводнай атамнай электрастанцыі

15 снежня 2000 г . – афіцыйнае закрыццё ЧАЭС

Спынена будаўніцтва АЭС пад Мінскам, у 2004 г. спыніла функцыянаванне Ігналінская АЭС (Літва)

Энергасістэма СССР адкінута да сярэдзіны 1960-х гг.

Эканоміка Беларусі па сённяшні дзень залежыць ад вугалю, нафты і газу

**У 1987–1988 гг. – палітычны курс удакладняецца, афармляецца канцэпцыя Перабудовы**










Асноўны змест канцэпцыі Перабудовы:

- дэмакратызацыя грамадскага жыцця
- радыкальная эканамічная рэформа

## Рэфармаванне палітычнай сістэмы




## Змены ў эканамічным жыцці ў другой палове 1980-х гг.






**Жнівень 1991 г.**

Створаны Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу. Прыпынена дзейнасць палітычных партый, уведзена цэнзура, забаронены мітынгі і дэманстрацыі, у Маскву ўведзены войскі

Г. Янаеў В. Паўлаў Д. Язаў В. Кручкоў Б. Пуга

*ДКНС. Плакат 1991 г.*

Прэзідэнт Расіі Б. М. Ельцын заявіў аб падпарадкаванні сабе ўсіх органаў выканаўчай улады СССР, што знаходзіліся на тэрыторыі Расіі.

## Абвяшчэнне дзяржаўнага суверэнітэту саюзных рэспублік

| Саюзныя рэспублікі | Даты прыняцця дакументаў аб дзяржаўным суверэнітэце | Даты абвяшчэння незалежнасці |
|---|---|---|
| Азербайджан | 23 верасня 1989 г. | 30 жніўня 1991 г. |
| Арменія | 28 мая 1989 г. | 23 верасня 1991 г. |
| **Беларусь** | **27 ліпеня 1990 г.** | **25 жніўня 1991 г.** |
| Грузія | 9 сакавіка 1990 г. | 9 красавіка 1991 г. |
| Казахстан | 25 кастрычніка 1990 г. | 16 снежня 1991 г. |
| Кіргізія | 15 снежня 1990 г. | 31 жніўня 1991 г. |
| Латвія | 28 ліпеня 1989 г. | 21 жніўня 1991 г. |
| Літва | 18 мая 1989 г. | 11 сакавіка1990 г. |
| Малдова | 23 чэрвеня 1990 г. | 27 жніўня 1991 г. |
| Расія | 12 чэрвеня 1990 г. | 12 снежня 1991 г. |
| Таджыкістан | 24 жніўня 1990 г. | 9 верасня 1991 г. |
| Туркменія | 22 жніўня 1990 г. | 27 кастрычніка 1991 г. |
| Узбекістан | 20 чэрвеня 1990 г. | 31 жніўня 1991 г. |
| Украіна | 16 ліпеня 1990 г. | 24 жніўня 1991 г. |
| Эстонія | 16 лістапада 1988 г. | 20 жніўня 1991 г. |

## Ратыфікацыя Пагаднення аб стварэнні СНД

| Дзяржава | Ратыфікацыя Пагаднення аб стварэнні СНД (08.12.1991 г.) | Ратыфікацыя Пратакола да Пагаднення аб стварэнні СНД ( 21.12.1991 г.) | Дата ратыфікацыі Устава СНД |
|---|---|---|---|
| Азербайджан | не падпісана | 24 верасня 1993 г. | 14 снежня 1993 г. |
| Арменія | 18 лютага 1992 г. | 18 лютага 1992 г. | 16 сакавіка 1994 г. |
| Беларусь | 10 снежня 1991 г. | 10 снежня 1991 г. | 18 студзеня 1994 г. |
| Грузія | не падпісана | 3 снежня 1993 г. | 19 красавіка 1994 г. |
| Казахстан | 23 снежня 1991 г. | 23 снежня 1991 г. | 20 красавіка 1994 г. |
| Кіргізія | не падпісана | 6 сакавіка 1992 г. | 12 красавіка 1994 г. |
| Малдова | 8 красавіка 1994 г. | 8 красавіка 1994 г. | 27 чэрвеня 1994 г. |
| Расія | 12 снежня 1991 г. | 12 снежня 1991 г. | 20 ліпеня 1993 г. |
| Таджыкістан | не падпісана | 26 чэрвеня 1993 г. | 4 жніўня 1993 г. |
| Туркменістан | не падпісана | 26 снежня 1991 г. | не падпісаны |
| Узбекістан | 4 студзеня 1992 г. | 4 студзеня 1992 г. | 9 лютага 1994 г. |
| Украіна | 10 снежня 1991 г. | 10 снежня 1991 г. | не падпісаны |

## Дзяржавы-члены СНД

(Азербайджан) (Казахстан) (Таджыкістан) (Узбекістан)

(Арменія) (Кыргыстан) (Туркменістан) (Украіна)

(Беларусь) (Малдова) (Расія)

## Раздзел 6. СТАНАЎЛЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ СУВЕРЭННАЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Афармленне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі




### Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь – асноўны закон беларускай дзяржавы

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прынята 15 сакавіка 1994 г. Зараз яна дзейнічае са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскіх рэферэндумах 1996 і 2004 гг. 15 сакавіка адзначаецца як Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Канстытуцыя замацоўвае дзяржаўнае ўладкаванне краіны, асноўныя правы і свабоды грамадзян



Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь складаецца з прэамбулы, 9 раздзелаў, 8 глаў, 146 артыкулаў




**Органы ўлады ў Рэспубліцы Беларусь**



## Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь



Канстытуцыя ўстанавіла прэзідэнцкую форму дзяржаўнага кіравання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна. Ён прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у адносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі.

10 ліпеня 1994 г. першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь быў абраны А. Р. Лукашэнка.

Заканадаўчая ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца прадстаўнічым органам краіны – Парламентам – Нацыянальным сходам. Ён складаецца з двух палат: Палаты прадстаўнікоў (110 дэпутатаў, старшыня – Андрэйчанка У. П.) і Савета Рэспублікі (64 дэпутаты, старшыня – Рубінаў А. М.).





*Зала пасяджэнняў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*



Цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання, які ажыццяўляе выканаўчую ўладу – Урад – Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Яму падпарадкаваны: міністэрствы (24), Дзяржаўныя камітэты (6), Камітэты пры Савеце Міністраў (7).

Прэм'ер-Міністр
Рэспублікі Беларусь –
Мясніковіч М. У.



*Пасяджэнне Прэзідыума*
*Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Рэспубліканскія рэферэндумы

| | |
|---|---|
| 14 мая 1995 г. | • Наданне рускай мове роўнага статусу з беларускай<br>• Устанаўленне новай дзяржаўнай сімволікі<br>• Падтрымка курсу на эканамічную інтэграцыю з Расіяй |
| 24 лістапада 1996 г. | • Прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь<br>• Перанясенне Дня Незалежнасці на 3 ліпеня<br>• Пытанне аб свабоднай, без абмежаванняў, куплі і продажу зямлі<br>• Адмена смяротнага пакарання ў дзяржаве |
| 17 кастрычніка 2004 г. | • Унясенне паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, звязаных з парадкам правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь |

## Новы грамадскі інстытут – Усебеларускі народны сход

З другой паловы 1990-х гг. пачаў дзейнічаць новы грамадскі інстытут – Усебеларускі народны сход.

19–20 кастрычніка 1996 г.
- I Усебеларускі народны сход. Вызначыў асноўныя накірункі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1996–2000 гг. Прыярытэтныя накірункі: экспарт, жыллё, харчаванне

18 мая 2001 г.
- II Усебеларускі народны сход. Прыняў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2001–2005 гг. Прыярытэтныя накірункі: ахова здароўя, інавацыйная і інвестыцыйная дзейнасць, развіццё АПК і інш.

2–3 сакавіка 2006 г.
- III Усебеларускі народны сход. Прыняў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2006–2010 гг. Прыярытэтныя накірункі: развіццё навукаёмкіх галін, імпартазамяшчальных і экспартаарыентаваных вытворчасцей

**6–7 снежня 2010 г. – IV Усебеларускі народны сход.** Прыняў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 2011–2015 гг. Ключавая задача пяцігоддзя – стварэнне прынцыпова новых вытворчасцей, прадпрыемстваў і галін, якія выпускаюць экспартаарыентаваную, высокатэхналагічную прадукцыю, фарміраванне новага аблічча беларускай эканомікі.

## Прыярытэтныя накірункі



## Спектр палітычных партый Рэспублікі Беларусь

| **Левыя** (партыі камуністычнай і сацыялістычнай арыентацыі) | **Цэнтрысты** (партыі сацыял-дэмакратычнай арыентацыі) | **Правыя** (партыі ліберальнай і антыкамуністычнай арыентацыі) |
|---|---|---|
| ▪ Камуністычная партыя Беларусі – КПБ<br>▪ Партыя камуністаў Беларусі – ПКБ<br>▪ Беларуская патрыятычная партыя – БПП<br>▪ Беларуская аграрная партыя – БАП | ▪ Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) – БСДП (НГ)<br>▪ Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада – БСДГ<br>▪ Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды – БСДП (НЗ) і інш. | ▪ Партыя Беларускага народнага фронту – Партыя БНФ<br>▪ Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ – КХП БНФ<br>▪ Аб'яднаная грамадзянская партыя – АГП і інш. |

Па дадзеным на 2010 г. у рэспубліцы дзейнічае 15 палітычных партый.

## Асноўныя этапы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь



**Характэрныя рысы беларускай мадэлі эканомікі**

Дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, захаванне за дзяржавай ключавых галін прамысловасці

Прыватызацыя, арыентаваная на пошук эфектыўнага ўласніка і павелічэнне вытворчасці

Плюралізм форм уласнасці, форм гаспадарання

Эфектыўная сацыяльная палітыка, адрасная дапамога слабаабароненым слаям насельніцтва

Шматвектарнасць знешнеэканамічнай палітыкі

**Перавагі беларускай эканомікі:**

- нізкае беспрацоўе (0,9 %)
- сацыяльная стабільнасць
- вялікі патэнцыял для лясной і сельскай гаспадаркі, разгортвання навукаёмістых вытворчасцей
- развітая транспартная сістэма
- высокая якасць дарог
- значныя радовішчы калійнай солі

**Цяжкасці эканамічнага развіцця:**

- адсутнасць значных радовішчаў нафты (здабыча нафты з радовішчаў у раёне Рэчыцы за год не перавышае 1,5 млн. тон), жалезнай руды і вугалю
- наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС

## Гістарычная даведка

Па дадзеным на 01.02.2012 г. колькасць насельніцтва, што пражывае на Беларусі, складае **9,46 млн**. чалавек.




**Дынаміка колькасці насельніцтва Беларусі за 1950–2005 гг., тыс. чалавек**




Сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі ў апошнія два гады – 70,5 года (мужчыны – 64,7; жанчыны – 76,5). Мэтавы паказчык на 2015 г. – 73 гады (мужчыны – 67; жанчыны – 78,2)

**У 2011 г. Беларусь падтрымлівала гандлёвыя адносіны больш чым са 160 краінамі свету**




**Сацыяльная палітыка Рэспублікі Беларусь**



| Індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу (ІРЧП) |  | індэкс для параўнальнай адзнакі беднасці, пісьменнасці, адукацыі, сярэдняй працягласці жыцця і іншых паказчыкаў краіны. З 1993 г. Выкарыстоўваецца ААН у штогадовай справаздачы |
|---|---|---|

Пры падліку ІРЧП улічваюцца наступныя віды паказчыкаў:

1. Чакаемая працягласць жыцця.
2. Узровень пісьменнасці насельніцтва краіны і чакаемая працягласць навучання.
3. Узровень жыцця, ацэнены праз ВНД на душу насельніцтва па парытэту пакупной здольнасці ў доларах ЗША.

| Краіны з лепшым ІРЧП | Краіны з горшым ІРЧП |
|---|---|
| Нарвегія | Конга |
| Аўстралія | Нігер |
| Нідэрланды | Бурундзі |
| ЗША | Мазамбік |
| Новая Зеландыя | Чад |

Па ІРЧП Беларусь займае 65-е месца са 187 краін, 1-е месца з краін СНД (2011 г.).

## Рэспубліка Беларусь (Беларусь)





Мяжуе з 5 краінамі: на захадзе – з Польшчай (13,4 % ад агульнай працягласці мяжы), на паўночным захадзе – з Літвой (15,6 %), на поўначы – з Латвіяй (4,8 %), на поўдні – з Украінай (32,8 %), на паўночным захадзе, паўночным усходзе і ўсходзе – з Расіяй (33,4 %).

Па тэрыторыі – 84-е месца ў свеце (207 600 км²), па колькасці насельніцтва – 87-е месца ў свеце (9, 47 млн. чалавек).

## Гістарычная даведка

Транзітныя шляхі праз Беларусь звязваюць Расію з дзяржавамі Усходняй і Заходняй Еўропы, Украіну і Малдову – з Прыбалтыкай і паўночным захадам Расіі.




Адлегласць ад Мінска да сталіц суседніх дзяржаў

- Вільнюс – 215 км
- Рыга – 470 км
- Варшава – 550 км
- Кіеў – 580 км
- Масква – 700 км

Рэспубліка Беларусь – нейтральная бяз'ядзерная дзяржава

У 1996 г. ядзерная зброя была поўнасцю выведзена за межы краіны

## Рэспубліка Беларусь у міжнародным супольніцтве




## Членства Беларусі ў міжнародных арганізацыях і спецыялізаваных установах ААН

| | | |
|---|---|---|
| ААН (ААН) – Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, 1945 г. | Праграма ААН па навакольнаму асяроддзю (ЮНЕП), 1975 г. | Фонд ААН для развіцця ў інтарэсах жанчын (ЮНИФЕМ), 1973 г. |
| Дзіцячы фонд ААН (ЮНИСЕФ), 1953 г. | ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО), 1954 г. | Міжнародная арганізацыя працы (МОТ), 1954 г. |
| Сусветная арганізацыя аховы здароўя (ВОЗ), 1946 г. | Міжнародны валютны фонд (МВФ), 1992 г. | Харчовая і сельскагаспадарчая ААН (ФАО), 2005 г. |

## Ініцыятывы Рэспублікі Беларусь у рамках ААН




## Членства Беларусі ў міжнародных і рэгіянальных арганізацыях

| | | |
|---|---|---|
| Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ), 1957 г. | Сусветная гандлёвая арганізацыя (ВТО), статут назіральніка з 1993 г. | Сусветная мытная арганізацыя (ВТО), 1993 г. |
| Міжнародны навукова-тэхнічны цэнтр (МНТЦ), 1993 г. | Міжнародная арганізацыя па стандартызацыі (ИСО), 1993 г. | Міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі (ИНТЕРПОЛ), 1993 г. |
| Рух недалучэння, 1998 г. | Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (ОБСЕ), 1992 г. | Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР), 1992 г. і інш. |

## Садружнасць незалежных дзяржаў







- членыСНД
- асацыіраваныя члены СНД
- дзяржавы, якія заявілі аб выхадзе з СНД
- дзяржавы-назіральнікі СНД
- дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у асобных структурах СНД у якасці назіральніка

## Альтэрнатыўныя інтэграцыйныя формы СНД



**Этапы інтэграцыі Беларусі і Расіі**

| | |
|---|---|
| 2 красавіка 1996 г. | • Дагавор аб Супольнасці суверэнных дзяржаў – Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі |
| 2 красавіка 1997 г. | • Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі |
| 8 снежня 1999 г. | • Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі |

**ЕўрАзЭС – Еўразійскае эканамічнае супольніцтва, 2000 г.**

Міжнародная эканамічная арганізацыя, надзеленая функцыямі фарміравання агульных знешніх мытных межаў, выпрацоўкі адзінай знешнеэканамічнай палітыкі, тарыфаў, цэн і інш.

Генеральны сакратар – Т. А. Мансураў.



**Дзяржавы-члены:** Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Расія, Таджыкістан, Узбекістан (2006–2008 гг. – прыпынена).
**Дзяржавы-назіральнікі:** Арменія, Малдова, Украіна.

**2010 г. – Мытны саюз Расіі, Беларусі і Казахстана**

Прадугледжвае адзіную мытную тэрыторыю, у межах якой ва ўзаемным гандлі таварамі не прымяняюцца мытныя пошліны і абмежаванні эканамічнага характару, ужываецца адзіны мытны тарыф і інш. адзіныя меры рэгулявання гандлю таварамі з трэцімі краінамі.

**АДКБ – Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы, 2003 г.**

Ваенна-палітычны саюз, створаны дзяржавамі СНД на аснове Дамовы аб калектыўнай бяспецы (1992 г.). У адпаведнасці з Дагаворам ствараюцца калектыўныя сілы хуткага разгортвання, у якія кожная дзяржава-ўдзельніца вылучае па батальёну.

Генеральны сакратар – М. М. Бардзюжа.




1. Беларусь
2. Расія
3. Арменія
4. Казахстан
5. Кыргызстан
6. Таджыкістан
7. Узбекістан



**Новы этап у галіне культуры**

1. Пераадоленне ідэалагічнага і дзяржаўнага кантролю ў развіцці культуры.
2. Нацыянальна-культурнае адраджэнне.
3. Вяртанне айчыннай гістарычнай спадчыны.

**Адкрыты новыя ВНУ**

- Інстытут мытнай службы;
- Магілёўскі вышэйшы каледж МУС;
- Медыцынскі інстытут у Гомелі;
- Палескі дзяржаўны ўніверсітэт у Пінску і інш.




Штогод ВНУ рэспублікі выпускаюць больш за 50 тыс. спецыялістаў.

**Беларуская навука**

Галоўная задача – атрыманне навуковых вынікаў, арыентаваных на практычнае выкарыстанне.



**СКІФ** – праект па распрацоўцы і серыйнай вытворчасці высокапрадукцыйных вылічальных сістэм і стварэнні на іх аснове прыкладных праграмна-апаратных комплексаў.




Праект СКІФ фінансаваўся за кошт бюджэтаў Расіі і Беларусі. Пад час яго рэалізацыі былі створаны суперкамп'ютары СКІФ К-500 і СКІФ К-1000. Кошт апошняга – 1,7 млн. долараў (што на парадак ніжэй кошту замежнага аналагу (4 млн. долараў)).

СКІФ К-1000 усталяваны ў Аб'яднаным інстытуце праблем інфарматыкі НАН Беларусі, выкарыстоўваецца буйнымі прадпрыемствамі-экспарцёрамі: МАЗам, БелАЗам, Беларускім трактарным заводам, Заводам карданных валаў.



**«БелКА»** – беларускі касмічны апарат дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі. Яго прызначэнне:

- кантроль за землекарыстаннем і сельскагаспадарчай вытворчасцю
- вызначэнне плошчаў, перспектыўных для пошуку карысных выкапняў, абнаўленне тапаграфічных карт
- кантроль надзвычайных сітуацый, экалагічны кантроль навакольнага асяроддзя і інш.

Праект першага беларускага спадарожніка ўзнік у 2003 г.

Яго запуск прайшоў у 2006 г. на касмадроме «Байканур», але быў няўдалым.

Сёння ў Беларусі вядзецца зборка другога спадарожніка «БелКА-2».

**Парк высокіх тэхналогій** – праект па падтрымцы і развіццю ў краіне высокіх тэхналогій. Мэта праекту – стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця індустрыі праграміравання, арыентаванай на экспарт, для канцэнтрацыі кадравага і навукова-вытворчага патэнцыялу.

Дэкрэт «Аб Парку высокіх тэхналогій» быў падпісаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у 2005 г.

Парк размяшчаецца ў Мінску на плошчы 106,8 га. Будаўніцтва Парка высокіх тэхналогій пачалося ў 2008 г. Да 2009 г. на базе ПВТ плануецца адкрыць сумесны беларуска-індыйскі вучэбны цэнтр у сферы высокіх тэхналогій.

## Дзяржава і рэлігія

1992 г. – Закон «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях»



1994 г. – Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскіх рэферэндумах 24 лістапада 1996 г., 17 кастрычніка 2004 г.), артыкул 16



2002 г. – Закон «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях»

## Традыцыйныя рэлігіі Беларусі




Сёння дзейнічае 25 рэлігійных канфесій і кірункаў.
*(па стану на 24.02.2012 г.)*




- 1025 пратэстанцкіх абшчын,14 рэлігійных накірункаў;
- 53 іўдзейскія абшчыны, 10 сінагог;
- 25 мусульманскіх абшчын, 6 мячэцей;
- новыя канфесійныя плыні: абшчыны Міжнароднага грамадства Прытомнасці Крышны, бахаі і інш.

## Сучасныя мастакі Беларусі

А. Бараноўскі
Г. Вашчанка
З. Літвінава
В. Каралёў
А. Карповіч
А. Кішчанка
Н. Марчанка
М. Селяшчук
А. Суша
Л. Шчамялёў
В. Шматаў
І. Ягораў

**Асноўныя тэмы творчасці:**

- сацыяльна-палітычныя і экалагічныя праблемы *(М. Савіцкі, В. Шматаў)*
- нацыянальная, культурная спадчына, тэма малой Радзімы *(Л. Шчамялёў, К. Качан)*
- міфалогія *(П. Лук'яненка, М. Селяшчук)*
- біблейская, рэлігійная тэматыка *(І. Ягораў)*
- узнаўленне згубленай былой гармоніі чалавека і прыроды *(А. Бараноўскі, А. Грышкевіч)*

У 1996 г. у Барысаве на камбінаце прыкладнога мастацтва быў створаны грандыёзны габелен. Яго плошча – 266 м² (памер – 19×14 м, вага – 300 кг, агульная даўжыня ніткі – 806 км).

На габелене адлюстраваны падзеі XX ст. і больш 80 вядомых палітыкаў, дзяржаўных, культурных і рэлігійных дзеячаў, у тым ліку і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

Унікальнае палатно занесена ў Кнігу рэкордаў Гінесу як самы вялікі габелен у свеце, прызнана нацыянальным здабыткам.



*А. Кішчанка «Габелен стагоддзя»*

## Зварот да гістарычнай тэматыкі ў беларускай скульптуры



*Помнік Ф. Скарыне ў Лідзе*



*Помнік К. Тураўскаму ў Тураве*



*Помнік У. Чарадзею ў Полацку*



*«Востраў слёз» у Мінску, помнік воінам, што загінулі ў Афганістане*

## Паркавая скульптура



*«Дама на скамейцы». Скульптар У. Жбанаў*



*«Фатограф». Скульптар У. Жбанаў*



*«Добры Вася». Скульптар У. Жбанаў*

*«Паштальён». Скульптар У. Жбанаў, Я. Колчаў*





*«Бабка з семечкамі». Скульптар А. Купрыянаў*

## Сучасная архітэктура Беларусі




## Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь уключае 4811 аб'ектаў



Па стану на 2009 г. у спісе Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА – 890 аб’ектаў у 148 краінах, з іх на Беларусі:

| Выява | Назва | Месцазнаходжанне | Час стварэння | Год унясення ў спіс |
|---|---|---|---|---|
| | Белавежская пушча | Беларусь, Польшча | - | 1979, 1992 |
| | Замкавы комплекс Мір | Мір, Гродзенская вобл. | XVI – XVI I стст. | 2000 |
| | Геадэзічная дуга Струве | Беларусь, Эстонія, Расія, Фінляндыя, Латвія, Літва, Нарвегія, Малдова, Швецыя, Украіна | XIX ст. | 2005 |
| | Рэзідэнцыя Радзівілаў | Нясвіж, Мінская вобл. | XVI ст. | 2005 |

*Дуга Струве* – сетка з 265 трыангуляцыённых пунктаў, што ўяўляюць сабой закладзеныя ў зямлю каменныя кубы даўжынёй рабра 2 м, працягласцю больш 2820 км. Стваралася з мэтай вызначэння параметраў Зямлі, яе формы і памеру. Закладзена ў 1816–1855 гг. астраномам В. Я. Струве.

У спіс Помнікаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ўвайшлі 34 пункты Дугі Струве. Яны знойдзены на тэрыторыі Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Малдавіі і Украіны.






**Незаменныя страты ў беларускай літаратуры**

**1994**
- Алесь Адамовіч («Franz і Polina», «Vuxu»)

**1995**
- Барыс Сачанка («Паездка ў зону», «Запіскі аб радыяцыі»)

**1996**
- Іван Чыгрынаў («Вяртанне да віны», «Не ўсе мы прападзём»)

**2000**
- Алесь Адамчык («Голас крыві брата твайго»)

**2003**
- Васіль Быкаў («Сцюжа», «Балота», «Афганец», «Доўгая дарога дамой» )

**2004**
- Іван Шамякін («Завіхрэнне»)

**2006**
- Янка Брыль («Мундштук і папка»)

Сучасная беларуская літаратура характарызуецца гарманічным спалучэннем традыцыяналісцкіх і постмадэрнісцкіх плыняў.







**Асаблівасці сучаснай беларускай літаратуры**

✓Інтарэс да мадэрнізму і постмадэрнізму

✓Дамінуючае становішча эсэістыкі ў яе розных формах, дзённікі

✓Выкарыстанне жанравых і стылёвых форм іншых літаратур свету




**Беларусь на Алімпійскіх гульнях (1996–2010 гг.)**

| | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| АТЛАНТА-96 | 1 | 6 | 8 | 15 |
| СІДНЭЙ-2000 | 3 | 3 | 11 | 17 |
| АФІНЫ-2004 | 2 | 6 | 7 | 15 |
| ПЕКІН-2008 | 4 | 4 | 9 | 17 |
| ВАНКУВЕР-2010 | 1 | 1 | 1 | 3 |








АЛЯКСЕЙ ГРЫШЫН

заваяваў залаты медаль па фрыстайлу на Алімпійскіх гульнях у Ванкуверы ў 2010 г.

СЯРГЕЙ НОВІКАЎ

заваяваў серабро ў біятлоне (20 км) на Алімпійскіх гульнях у Ванкуверы ў 2010 г.

ДАР'Я ДОМРАЧАВА

заваявала бронзавы медаль у біятлоне (15 км) на Алімпійскіх гульнях у Ванкуверы ў 2010 г.

# ІНФАРМАЦЫЙНА-ДАВЕДАЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

## Кіраўнікі Беларусі

### Кіраўнікі вышэйшых органаў савецкай улады на Беларусі

| Гады жыцця | Імя кіраўніка | Час знаходжання на пасадзе |
|---|---|---|
| 1883–1937 | Карл Іванавіч Ландар, старшыня ВРК Заходняга фронту ў 1917 г., старшыня СНК Заходняй вобласці і фронту ў 1917–1918 гг. | 1917–1918 |
| 1885–1925 | Міхаіл Васільевіч Фрунзе, начальнік Мінскай грамадзянскай міліцыі, старшыня Выканкама Савета сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў | 1917 |
| 1886–1925 | Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў (Мяснікян), старшыня Аблвыкамзаха | 1918 |

## Сацыялістычная савецкая рэспубліка Літвы і Беларусі

| | | |
|---|---|---|
| 1880–1935 | Старшыня Прэзідыума ЦК КП(б) Літвы і Беларусі Вікенцій Сямёнавіч Міцкевіч-Капсукас (Вінцас Сіманавіч Міцкявічус-Капсукас) | 1919–1920 |

## Старшыні Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) ССРБ–БССР

| | | |
|---|---|---|
| 1886–1925 | Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў (Мяснікян) | 1919 |
| 1892–1937 | Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў | 1920–1937 |

## Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР

| | | |
|---|---|---|
| 1900–1964 | Нічыпар Якаўлевіч Наталевіч | 1938–1948 |
| 1903–1967 | Васіль Іванавіч Казлоў | 1948–1967 |
| 1913–1971 | Сяргей Восіпавіч Прытыцкі | 1968–1971 |
| 1911–1976 | Фёдар Анісімавіч Сурганаў | 1971–1976 |
| 1914 г. нар. | Іван Яўцеевіч Палякоў | 1977–1985 |
| 1937 г. нар. | Георгій Станіслававіч Таразевіч | 1985–1989 |
| 1930 г. нар. | Мікалай Іванавіч Дземянцей | 1989–1991 |

## Старшыні Саўнаркама (СНК) БССР

| | | |
|---|---|---|
| 1887–1937 | Зміцер Фёдаравіч Жылуновіч (Цішка Гартны) | 1919 |
| 1892–1937 | Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў | 1920 –1924 |
| 1897–1937 | Язэп (Іосіф) Аляксандравіч Адамовіч | 1924–1927 |
| 1894–1937 | Мікалай Мацвеевіч Галадзед | 1927–1937 |
| 1900–1937 | Даніла Іванавіч Валковіч | 1937, май –верасень |
| 1903–1993 | Апанас Фёдаравіч Кавалёў | 1937–1938 |
| 1903–1977 | Кузьма Венідзіктавіч Кісялёў | 1938–1940 |
| 1903–1976 | Іван Сямёнавіч Былінскі | 1940–1944 |
| 1902–1984 | Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка | 1944–1946 |

## Старшыні Савета Міністраў БССР

| | | |
|---|---|---|
| 1902–1984 | Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка | 1946–1948 |
| 1905–1968 | Аляксей Яўхімавіч Кляшчоў | 1948–1953 |
| 1914–1989 | Кірыла Трафімавіч Мазураў | 1953–1956 |
| 1907–1996 | Мікалай Яфрэмавіч Аўхімовіч | 1956–1959 |
| 1917–1983 | Ціхан Якаўлевіч Кісялёў | 1959–1978 |
| 1924 г. нар. | Аляксандр Нічыпаравіч Аксёнаў | 1978–1983 |
| 1931–1992 | Уладзіслаў Ігнатавіч Бровікаў | 1983–1986 |
| 1925 г. нар. | Міхаіл Васільевіч Кавалёў | 1986–1990 |

## Кіраўнікі Камуністычнай партыі Беларусі (КП(б)Б, з 1952 г. – КПБ)

| | | |
|---|---|---|
| 1890–1938 | Вільгельм Георгіевіч Кнорын (Кнорыньш) | 1920–1922 |
| 1884–1937 | Вацлаў Антонавіч Багуцкі (Шпак) | 1922–1924 |
| 1885–1937 | Аляксандр Мікалаевіч Асаткін –Уладзімірскі | 1924 |
| 1894–1937 | Аляксандр Іванавіч Крыніцкі | 1924–1927 |
| 1890–1938 | Вільгельм Георгіевіч Кнорын (Кнорыньш) | 1927–1928 |
| 1894–1937 | Ян Барысавіч Гамарнік | 1928–1929 |
| 1896–1939 | Канстанцін Веньямінавіч Гей | 1930–1932 |
| 1897–1938 | Мікалай Фёдаравіч Гікала | 1932–1937 |
| 1897–1938 | Васіль Фаміч Шаранговіч | 1937, сакавік – ліпень |
| 1902–1984 | Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка | 1938–1947 |
| 1905–1985 | Мікалай Іванавіч Гусараў | 1947–1950 |
| 1908–1989 | Мікалай Сямёнавіч Патолічаў | 1950–1956 |
| 1914–1989 | Кірыла Трафімавіч Мазураў | 1956–1965 |
| 1918–1980 | Пётр Міронавіч Машэраў | 1965–1980 |
| 1917–1983 | Ціхан Якаўлевіч Кісялёў | 1980–1983 |
| 1929 г. нар. | Мікалай Мікітавіч Слюнькоў | 1983–1987 |
| 1926 г. нар. | Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў | 1987–1990 |
| 1933 г. нар. | Анатоль Аляксандравіч Малафееў | 1990–1991 |

## Рэспубліка Беларусь

| | | |
|---|---|---|
| 1954 г. нар. | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка | з 1994 г. |

## Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

| | | |
|---|---|---|
| 1934 г. нар. | Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч | 1991–1994 |
| 1938 г. нар. | Мечыслаў Іванавіч Грыб | 1994–1995 |
| 1936 г. нар. | Сямён Георгіевіч Шарэцкі | 1996 |

## Кіраўнікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| 1933 г. нар. | Анатоль Аляксандравіч Малафееў, старшыня Палаты прадстаўнікоў | 1996–2000 |
| 1949 г. нар. | Павел Уладзіміравіч Шыпук, старшыня Савета Рэспублікі | 1997–2000 |
| 1938 г. нар. | Аляксандр Паўлавіч Вайтовіч, старшыня Савета Рэспублікі | 2000–2003 |
| 1940 г. нар. | Вадзім Аляксандравіч Папоў, старшыня Палаты прадстаўнікоў | 2000–2004, 2007–2008 |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| 1949 г. нар. | Генадзь Васільевіч Навіцкі, старшыня Савета Рэспублікі | 2003–2008 |
| 1954 г. нар. | Уладзімір Мікалаевіч Канаплёў, старшыня Палаты прадстаўнікоў | 2004–2007 |
| 1947 г. нар. | Барыс Васільевіч Батура, старшыня Савета Рэспублікі | 2008–2010 |
| 1949 г. нар. | Уладзімір Паўлавіч Андрэйчанка, старшыня Палаты прадстаўнікоў | з 2008 г. |
| 1939 г. нар. | Анатолій Мікалаевіч Рубінаў | з 2010 г. |

## Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

| | | |
|---|---|---|
| 1936 г. нар. | Вячаслаў Францавіч Кебіч | 1991–1994 |

## Прэм'ер-Міністры Рэспублікі Беларусь

| | | |
|---|---|---|
| 1948 г. нар. | Міхаіл Мікалаевіч Чыгір | 1994–1996 |
| 1937 г. нар. | Сяргей Сцяпанавіч Лінг | 1997–2000 |
| 1942 г. нар. | Уладзімір Васільевіч Ярмошын | 2000–2001 |
| 1949 г. нар. | Генадзь Васільевіч Навіцкі | 2001–2003 |
| 1954 г. нар. | Сяргей Сяргеевіч Сідорскі | 2003–2010 |
| 1950 г. нар. | Міхаіл Уладзіміравіч Мяснікові | з 2010 г. |

## Спіс пяцігодак у СССР

Дзяржплан СССР пачаў складаць пяцігадовыя планы развіцця народнай гаспадаркі і кантраляваць іх выкананне з 1928 г.

| Перыяд рэалізацыі | Парадкавы нумар | Назва дакумента | Зацверджаны |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1928–1932 | I пяцігадовы план | Дырэктывы па складанню пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі | V Усесаюзны з'езд Саветаў у 1929 г. |
| 1933–1937 | II пяцігадовы план | Рэзалюцыя «Аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР» | XVII з'езд ВКП(б) у 1934 г. |
| 1938–1942 | III пяцігадовы план – сарваны пачаткам Вялікай Айчыннай вайны | Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Молатава | XVIII з'езд ВКП(б) у 1939 г. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1946–1950 | IV пяцігадовы план | Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі СССР (на 1946–1950 гг.) | Першая сесія Вярхоўнага Савета СССР 18 сакавіка 1946 г. |
| 1951–1955 | V пяцігадовы план | Дырэктывы па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР | XIX з’езд КПСС у 1952 г. |
| 1956–1960 | VI пяцігадовы план – не быў завершаны, так як быў прыняты Сямігадовы план | Дырэктывы па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР | XX з’езд КПСС у 1956 г. |
| 1959-1965 | Сямігадовы план | Дырэктывы па сямігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР | XXI з’езд КПСС у 1959 г. |
| 1966–1970 | VIII пяцігадовы план | Дырэктывы па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР | XXIII з’езд КПСС у 1966 г. |
| 1971–1975 | IX пяцігадовы план | Дырэктывы па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР | XXIV з’езд КПСС у 1971 г. |
| 1976–1980 | X пяцігадовы план | Асноўныя накірункі развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1976–1980 гг. | XXV з’езд КПСС у 1976 г. |
| 1981–1985 | XI пяцігадовы план | Асноўныя накірункі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1981–1985 гг. і на перыяд да 1990 г. | XXVI з’езд КПСС у 1981 г. |
| 1986–1990 | XII пяцігадовы план | Асноўныя накірункі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986–1990 гг. і на перспектыву да 2000 г. | XXVII з’езд КПСС у 1986 г. |
| 1991–1995 | XIII пяцігадовы план | Не быў рэалізаваны ў сувязі з распадам СССР | |

## ПРЫКЛАДНЫЯ ВАРЫЯНТЫ ТЭСТАЎ

1. *Калі славяне падзяліліся на тры групы?*
А. VI–VIIст.
Б. VIII–IVст.
В. V–VIIIст.
Г. I–IIст.
2. *Продкамі якіх народаў былі ўсходнія славяне?*
А. Беларусаў.
Б. Рускіх.
В. Украінцаў.
Г. Правільныя ўсе адказы.
3. *Як, згодна з «Аповесцю мінулых часоў», называліся славянскія плямёны, што прыйшлі з Дуная на Днепр?*
А. Паляне.
Б. Дрыгавічы.
В. Палачане.
Г. Крывічы.
4. *Як, згодна з «Аповесцю мінулых часоў» называліся славянскія плямёны, што аселі паміж Прыпяццю і Дзвіной?*
А. Паляне.
Б. Дрыгавічы.
В. Палачане.
Г. Крывічы.
5. *Вызначце тэрыторыю, якую займалі дрыгавічы.*
А. Вярхоўе Заходняй Дзвіны.
Б. Паўднёвая і Цэнтральная Беларусь.
В. Міжрэчча Дняпра і Дзвіны.
Г. Правільныя ўсе адказы.
6. *Калі ў летапісе ўпершыню ўпамінаюцца радзімічы?*
А. 859 г.
Б. 882 г.
В. 885 г.
Г. 986 г.
7. *Калі ў летапісе ўпершыню ўпамінаецца Полацк і яго воласць?*
А. У 867 г.
Б. У 862 г.
В. У 874 г.
Г. У 876 г.

8. *Хто быў першым гістарычна вядомым князем у Полацку?*
А. Уладзімір Святаславіч.
Б. Яраслаў Мудры.
В. Усяслаў Брачыславіч.
Г. Рагвалод.
9. *Якому князю ў старажытнасці далі мянушку «Акаянны»?*
А. Яраполку.
Б. Святаполку.
В. Уладзіміру.
Г. Ізяславу.
10. *У якім годзе была створана Полацкая епархія?*
А. У 980 г.
Б. У 760 г.
В. У 992 г.
Г. У 986 г.
11. *Калі ў Тураве была заснавана епархія?*
А. У1008 г.
Б. У 1010 г.
В. У 1005 г.
Г. У 1006 г.
12. *Назавіце гады жыцця Еўфрасінні Полацкай.*
А. Каля 1104–1167 г.
Б. Каля 1004–1069 гг.
В. Каля 1012–1079 гг.
Г. Каля 1034–1107 гг.
13. *Што заказала Еўфрасіння Полацкая майстру Лазару Богшу?*
А. Пабудаваць царкву.
Б. Зрабіць крыж.
В. Напісаць ікону.
Г. Пабудаваць школу.
14. *У чым заслуга братоў Кірылы і Мяфодзія з Салуні?*
А. Яны будавалі храмы.
Б. Яны стварылі славянскую азбуку і пісьменства.
В. Яны лячылі хворых.
Г. Яны былі выдатнымі палкаводцамі.
15. *Якая мураваная пабудова на тэрыторыі Беларусі з’яўляецца самай старажытнай?*
А. Спаская царква Еўфрасіннеўскага манастыра.
Б. Полацкі Сафійскі сабор.

В. Барысаглебская царква ў прадмесці Каложа.
Г. Бельчыцкі манастыр.
16. *Калі быў створаны знакаміты крыж Еўфрасінні Полацкай?*
А. У 1134 г.
Б. У 1161 г.
В. У 1150 г.
Г. У 1178 г.
17. *Гедымін з'яўляўся вялікім князем у перыяд:*
А. 1296–1316 гг.
Б. 1316–1341 гг.
В. 1357–1378 гг.
Г. 1410–1425 гг.
18. *Міндоўг каранаваўся ў Навагрaдку:*
А. У 1209 г.
Б. У 1234 г.
В. У 1253 г.
Г. У 1273 г.
19. *Пры Гедыміне была:*
А. Уведзена новая дзяржаўная сімволіка.
Б. Заснавана новая дзяржава.
В. Перанесена ў Вільню сталіца.
Г. Створана першая праваслаўная мітраполія.
20. *З якога года Вільня стала сталіцай ВКЛ?*
А. 1296 г.
Б. 1323 г.
В. 1317 г.
Г. 1321 г.
21. *У якім годзе пасля трохгадовай вайны, згодна з Астроўскім пагадненнем, уся паўната ўлады ў ВКЛ перайшла да Вітаўта?*
А. У 1389 г.
Б. У 1392 г.
В. У 1397 г.
Г. У 1393 г.
22. *Полацк увайшоў у склад ВКЛ:*
А. У 1307 г.
Б. У 1297 г.
В. У 13І6 г.
Г. У 1410 г.
23. *Грунвальдская бітва адбылася пры князі:*

А. Вітаўце.
Б. Кейстуце.
В. Ягайле.
Г. Альгердзе.
24. *Грунвальдская бітва адбылася:*
А. У 1380 г.
Б. У 1410 г.
В. У 1242 г.
Г. У 1362 г.
25. *Назавіце асноўныя прычыны недзеяздольнасці Сойма Рэчы Паспалітай у XVII– XVIII стст.*
А. Жаданне шляхты самастойна прымаць усе рашэнні.
Б. Права «liberum veto».
В. Супрацьдзеянні каралеўскіх улад.
Г. Недасканаласць заканадаўчай базы.
26. *Трыбунал ВКЛ быў створаны:*
А. У 1588 г.
Б. У 1581 г.
В. У 1529 г.
Г. У 1569 г.
27. *Апошні статут ВКЛ быў складзены:*
А. У 1566 г.
Б. У 1586 г.
В. У 1588 г.
Г. У 1596 г.
28. *Крэўская унія была заключана:*
А. У 1385 г.
Б. У 1386 г.
В. У 1413 г.
Г. У 1314 г.
29. *Мір паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1667 г. быў заключаны:*
А. У Полацку.
Б. У вёсцы Андросава.
В. У Копысі.
Г. У Смаленску.
30. *Рэфармаванне эканомікі Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. праводзіў:*
А. Агінскі.
Б. Радзівіл.

В. Вішнявецкі.

Г. Тызенгаўз.

31. *Першы зборнік законаў ВКЛ – судзебнік Казіміра быў выдадзены:*

А. У1413 г.

Б. У 1529 г.

В. У 1468 г.

Г. У1397 г.

32. *У 1498 г. магдэбургскае права атрымаў:*

А. Мінск.

Б. Слуцк

В. Слонім.

Г. Полацк.

33. *Войскі ВКЛ перамаглі войскі Маскоўскай дзяржавы пад Оршай:*

А. У 1508 г.

Б. У 1509 г.

В. У 1492 г.

Г. У 1567 г.

34. *Ф. Скарына займаўся друкарскай справай у ВКЛ:*

А. У 1517–1522 гг.

Б. У 1522–1525 гг.

В. У 1515–1527 гг.

Г. У 1517–1527 гг.

35. *Лівонская вайна доўжылася:*

А. З 1558 па 1583 г.

Б. З 1514 па 1545 г.

В. З 1583 па 1596 г.

Г. З 1566 па 1587 г.

36. *С. Будны выдаў у Нясвіжы друкаваны беларускамоўны «Катэхізіс»:*

А. У 1557 г.

Б. У 1507 г.

В. У 1562 г.

Г. У 1569 г.

37. *Віленскі універсітэт быў заснаваны:*

А. У 1547 г.

Б. У 1549 г.

В. У 1597 г.

Г. У 1579 г.

38. *Ям-Запольскае перамір’е было заключана:*
А. У 1577 г.
Б. У 1582 г.
В. У 1512 г.
Г. У 1594 г.
39. *Сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам В. Вашчылы праходзіла:*
А. У 1640–1644 гг.
Б. У 1740–1744 гг.
В. У 1520–1524 гг.
Г. У 1620–1624 гг.
40. *У 1253 г. Міндоўг карануецца і прымае тытул:*
А. Князя.
Б. Вялікага князя.
В. Караля.
Г. Цара.
41. *Грундвальдская бітва пачалася атакай:*
А. Конніцы ВКЛ.
Б. Рыцараў фон Валенрода.
В. Конніцы фон Юнгінгена.
Г. Лучнікаў польскага войска.
42. *Пасля нападу нямецкіх рыцараў і пабудовы абарончых умацаванняў Рыгі быў заснававы ў 1202 г. ордэн:*
А. Тэўтонскі.
Б. Мечаносцаў.
В. Эстлінтыйскі.
Г. Фларэнтыйскі.
43. *Полацкі князь Уладзімір распачынаў паходы супраць нямецкіх рыцараў:*
А. У 1203–1220 гг.
Б. У 1203–1216 гг.
В. У 1200–1206 гг.
Г. У 1214–1220 гг.
44. *Войскі казакаў і беларусаў былі разбіты пад Лоевам 31 ліпеня:*
А. 1644 г.
Б. 1649 г.
В. 1640 г.
Г. 1654 г.
45. *Перамір’е паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай было падпісана ў Андросаве:*

А. У 1617 г.
Б. У 1651 г.
В. У 1667 г.
Г. У 1683 г.
46. *Берасцейская царкоўная унія была заключана:*
А. У 1596 г.
Б. У 1569 г.
В. У 1588 г.
Г. У 1573 г.
47. *Слонімскім прыгонным тэатрам кіраваў:*
А. Я. Голанд.
Б. М. Агінскі.
В. М. Радзівіл.
Г. А. Скарульскі.
48. *У асноўныя прынцыпы правасуддзя статута ВКЛ не ўваходзілі:*
А. Прыярытэт законаў.
Б. Персанальная адказнасць за забойства.
В. Аддзяленне суда ад улады.
Г. Саслоўнасць у прымяненні нормаў закона.
49. *У 1699–1700 гг. у склад ваеннай кааліцыі «Паўночны саюз» уваходзілі:*
А. Расія, Рэч Паспалітая, Саксонія і Данія.
Б. Саксонія, Расія і Данія.
В. Рэч Паспалітая, Саксонія і Данія.
Г. Расія, Рэч Паспалітая і Саксонія.
50. *Асноўная саманазва насельніцтва Беларусі ў XIII–XVIII стст.:*
А. Беларусцы.
Б. Русіны.
В. Ліцвіны.
Г. Беларусы.
51. *Шырокае рассяленне татар у Беларусі пачалося:*
А. У канцы XIV – першай трэці XV ст.
Б. У XVст.
В. У першай трэці XIV ст.
Г. У другой палове XV ст.
52. *Калі адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай?*
А. У 1762 г.
Б. У 1770 г.
В. У 1772 г.

Г. У 1780 г.

53. *Першы Усебеларускі з'езд адбыўся:*

А. 15–17 снежня 1917 г.

Б. 31 снежня 1918 г. – 1 студзеня 1919 г.

В. 3 лютага 1918 г.

Г. 26–28 кастрычніка 1917 г.

54. *Створаны 27 кастрычніка 1917 г. пры штабе Заходняга фронту камітэт выратавання рэвалюцыі ўзначальваў:*

А. І. Алібегаў.

Б. А. Чарвякоў.

В. М. Фрунзе.

Г. Т. Калатухін.

55. *Трэцяя Устаўная грамата БНР была прынята:*

А. 18 сакавіка 1918 г.

Б. 24 сакавіка 1918 г.

В. 25 сакавіка 1918 г.

Г. 2 красавіка 1918 г.

56. *Дэкрэтам СНК РСФСР ад 31 студзеня 1918 г. пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей быў утвораны Беларускі нацыянальны камісарыят, які ўзначальваў:*

А. З. Жылуновіч.

Б. В. Кнорын.

В. А. Чарвякоў.

Г. А. Мяснікоў.

57. *Маніфест аб утварэнні БССР быў абнародаваны*:

А. 1 студзеня 1918 г.

Б. 1 студзеня 1919 г.

В. 31 снежня 1918 г.

Г. 3 люгага 1919 г.

58. *Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была створана:*

А. 23 чэрвеня 1919 г.

Б. 1 студзеня 1919 г.

В. 2–3 лютага 1919 г.

Г. 27 люгага 1919 г.

59. *Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. БССР складалася з:*

А. Пяці паветаў.

Б. Сямі паветаў.

В. Шасці паветаў.

Г. Дванаццаці паветаў.

60. *Пастанова УЦВК аб перадачы БССР 15 паветаў і воласцей Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў была прынята:*

А. У 1922 г.

Б. У 1924 г.

В. У 1926 г.

Г. У 1923 г.

61. *Харчразвёрстка была заменена харчпадаткам:*

А. У 1922 г.

Б. У 1920 г.

В. У 1921 г.

Г. У 1919 г.

62. *«Саюз вызвалення Беларусі» – гэта:*

А. Маладзёжная антыпольская арганізацыя ў Заходняй Беларусі.

Б. «Нацдэмаўская контррэвалюцыйная арганізацыя» рускай інтэлігенцыі.

В. Антысавецкая арганізацыя ў Чырвонай Арміі.

Г. Палітычнае крыло ўрада БНР.

63. *Афіцыйнае адкрыццё Акадэміі навук БССР адбылося:*

А. 1 студзеня 1929 г.

Б. 30 кастрычніка 1921 г.

В. 3 верасня 1934 г.

Г. 17 верасня 1930 г.

64. *Першым прэзідэнтам Акадэміі навук БССР быў:*

А. М. Гарэцкі.

Б. В. Ластоўскі.

В. У. Ігнатоўскі.

Г. У. Пічэта.

65. *Ля вытокаў заснававага ў 1921 г. у Вільні Таварыства беларускай мовы стаяў:*

А. А. Станкевіч.

Б. А. Луцэвіч.

В. М. Танк.

Г. Б. Тарашкевіч.

66. *ЦК РКП(б) прыняў пастанову аб вывадзе са складу БССР Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў:*

А. У студзені 1919 г.

Б. У чэрвені 1920 г.

В. У маі 1918 г.

Г. У снежні 1921 г.

67. *Дзейнасць Таварыства беларускай мовы ў Заходняй Беларусі была забаронена:*

А. У 1926 г.

Б. У 1937 г.

В. У 1939 г.

Г. У 1933 г.

68. *Ідэю перасялення сялян на хутары ў 1920-х гг. прапанаваў наркам земляробства:*

А. А. Адамовіч.

Б. А. Крыніцкі.

В. Д. Прышчэпаў.

Г. В. Кнорын.

69. *Беларускі дзяржаўны тэатр ( імя Я. Купалы) быў адкрыты:*

А. У 1919 г.

Б. У 1927 г.

В. У 1922 г.

Г. У 1920 г.

70. *Рыжскі мірны дагавор быў падпісаны:*

А. 20 снежня 1920 г.

Б. 3 сакавіка 1918 г.

В. 30 снежня 1922 г.

Г. 12 сакавіка 1921 г.

71. *Хто быў кіраўніком НКУС БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе?*

А. Л. Берыя.

Б. Л. Цанава.

В. М. Баскакаў.

Г. Б. Берман.

72. *Назавіце самую буйную новабудоўлю пасляваеннага дзесяцігоддзя:*

А. «Гомсельмаш».

Б. Мінскі трактарны завод.

В. Мотавелазавод.

Г. Віцебскі станкабудаўнічы завод.

73. *У БССР гарантаваная праца калгаснікаў і іх пенсійнае забеспячэнне былі ўведзены:*

А. Па рашэнню сакавіцкага Пленума ЦК КПСС у 1965 г.

Б. Па рашэнню вераснёўскага Пленума ЦК КПСС у 1965 г.

В. Па рашэнню вераснёўскага Пленума ЦК КПСС у 1953 г.
Г. Па рашэнню ліпеньскага Пленума ЦК КПСС у 1955 г.

74. *Калі першая чарга Мінскага метрапалітэна ўвайшла ў строй?*
А. У 1980 г.
Б. У 1975 г.
В. У 1984 г.
Г. У 1990 г.

75. *Хто ўзначальваў партыйную арганізацыю Беларусі з ліпеня 1956 па сакавік 1965 г.?*
А. П. М. Машэраў.
Б. К. Т. Мазураў.
В. Ц. Я. Кісялёў.
Г. М. М. Слюнькоў.

76. Хто ўзначальваў партыйную арганізацыю Беларусі з 1965 па 1980 г.?
А. П. М. Машэраў.
Б. К. Т. Мазураў.
В. Ц. Я. Кісялёў.
Г. М. М. Слюнькоў.

77. *З якой падзеяй звязваецца працэс дэсталінізацыі ў гісторыі СССР і БССР?*
А. XXIII з’ездам КПСС.
Б. XX з’ездам КПСС.
В. XIX з’ездам КПСС.
Г. XXI з’ездам КПСС.

78. *Хто першы з беларусаў у снежні 1973 г. здзейсніў палёт у космас?*
А. М. Севасцьянаў.
Б. У. Кавалёнак.
В. Ю. Гагарын.
Г. П. Клімук.

79. *Калі ў БССР была ўведзена няпоўная сярэдняя (8-гадовая) адукацыя?*
А. У 1982 г.
Б. У 1972 г.
В. У 1959 г.
Г. У 1966 г.

80. *Калі ў БССР была ўведзена абавязковая сярэдняя (10-гадовая) адукацыя?*

А. У 1982 г.
Б. У 1972 г.
В. У 1959 г.
Г. У 1966 г.

81. *Назавіце аўтара твораў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»?*

А. І. Шамякін.
Б. І. Мележ.
В. Я. Брыль.
Г. М. Танк.

82. *Хто аўтар палатна «Лічбы на сэрцы»?*

А. В. Волкаў.
Б. М. Савіцкі.
В. Л. Ахрэмчы.
Г. У. Сухаверхаў.

83. *Калі была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР?*

А. 27 чэрвеня 1989 г.
Б. 27 ліпеня 1990 г.
В. 22 жніўня 1991 г.
Г. 19 верасня 1991 г.

84. *Калі Вярхоўны Савет БССР надаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статус канстытуцыйнага закона?*

А. 25 жніўня 1990 г.
Б. 22 жніўня 1991 г.
В. 25 жніўня 1991 г.
Г. 19 верасня 1991 г.

85. *Калі новая назва нашай краіны – Рэспубліка Беларусь – была зацверджана Вярхоўным Саветам БССР?*

А. 25 жніўня 1991 г.
Б. 28 ліпеня 1990 г.
В. 19 верасня 1991 г.
Г. 8 снежня 1991 г.

86. *Калі Рэспубліка Беларусь падпісала пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў?*

А. 8 снежня 1991 г.
Б. 10 снежня 1991 г.
В. 21 снежня 1991 г.
Г. 18 снежня 1991 г.

87. *Калі была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь?*

А. 15 сакавіка 1994 г.

Б. 15 красавіка 1995 г.

В. 20 лістапада 1996 г.

Г. 15 сакавіка 1993 г.

88. *Першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка быў абраны:*

А. 26 чэрвеня 1994 г.

Б. 10 ліпеня 1994 г.

В. 24 лістапада 1996 г.

Г. 15 мая 1995 г.

89. *Якое пытанне Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь не выносіў на рэспубліканскі рэферэндум у 1995 г.?*

А. Аб змяненні дзяржаўнага гімна, флага і герба.

Б. Аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай.

В. Аб паглыбленні інтэграцыі з Расіяй.

Г. Аб праве Прэзідэнта распускаць Парламент у выпадку парушэння апошнім Канстытуцыі.

90. *Калі быў прыняты Закон аб мовах у Беларусі?*

А. У студзені 1990 г.

Б. У ліпені 1990 г.

В. У чэрвені 1991 г.

Г. У верасні 1991 г.

91. *40 % прамысловай вытворчасці БССР у канцы 1980-х гг. было звязана з:*

А. Выпускам тавараў паўсядзённага попыту.

Б. Выпускам ваеннай прадукцыі.

В. Выпускам станкоў.

Г. Машынабудаваннем.

92. *Якую мадэль эканамічнага развіцця Беларусі прапанаваў і рэалізуе на практыцы першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка?*

А. «Шокавай тэрапіі».

Б. Рыначную.

В. Планавую.

Г. Сацыяльна арыентаваную мадэль рыначнай эканомікі.

93. *Калі А. Р. Лукашэнка быў абраны на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?*

А. У 1991 г.

Б. У 1992 г.
В. У 1993 г.
Г. У 1994 г.
94. *Які фестываль песні праводзіцца ў Магілёве?*
А. «Залаты шлягер».
Б. «Срэбраныя струны».
В. «Іграй, гармонік».
Г. Камернай музыкі.
95. *М. Савіцкі – гэта:*
А. Пісьменнік.
Б. Кампазітар-песеннік.
В. Харэограф.
Г. Мастак.
96. *Калі быў падпісаны Дагавор аб Супольнасці Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі?*
А. 2 красавіка 1997 г.
Б. 2 красавіка 1996 г.
В. 8 студзеня 1991 г.
Г. 12 сакавіка 2001 г.
97. *Калі быў падпісаны Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі?*
А. 2 красавіка 1997 г.
Б. 2 красавіка 1996 г.
В. 10 снежня 1991 г.
Г. 15 сакавіка 1994 г.
98. *8 снежня 1999 г. у Маскве быў падпісаны Дагавор:*
А. Аб межах.
Б. Аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.
В. Аб мытных плацяжах.
Г. Аб узаемадзеянні па барацьбе з тэрарызмам.
99. *Хто не ўдзельнічаў у Белавежскім пагадненні?*
А. Л. Кучма.
Б. С. Шушкевіч.
В. Б. Ельцын.
Г. Л. Краўчук.
100. *Калі адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС?*
А. 26 сакавіка 1988 г.
Б. 26 красавіка 1986 г.
В. 6 мая 1987 г.
Г. 27 мая 1999 г.

# ЛІТАРАТУРА

## Нарматыўна-прававыя дакументы

1. В добрый путь. Выступление Президента А. Г. Лукашенко на церемонии принесения Присяги // Советская Белоруссия. – 2006. – 10 марта. – С. 3.

2. Взаимное доверие и согласие. Выступление А. Г. Лукашенко на торжественной церемонии вступления в должность Президента Республики Беларусь // Советская Белоруссия. – 2011. – 22 янв. – С. 3.

3. Государственная программа возрождения и развития села на 2005–2010 годы / отв. за выпуск Ю. А. Павлюкевич. – Минск: Беларусь, 2005. – 96 с.

4. Декларация Верховного Совета Республики Беларусь «О государственном суверенитете Белорусской Советской Социалистической Республики» от 27 июля 1990 г. // Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь. – 1991. – № 31. – Ст. 356.

5. Конституция Республики Беларусь 1994 года (с изменениями и дополнениями, принятыми на республиканских референдумах 24 ноября 1996 г. и 17 октября 2004 г.). – 2-е изд. – Минск: Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь, 2007. – 64 с.

6. Мы хотим мира и стабильности. Выступление Президента Республики Беларусь А. Г. Лукашенко на специальном Пленарном заседании 60-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН 15 сентября 2005 г. // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 10. – С. 3.

7. Наш исторический выбор – независимая, сильная и процветающая Беларусь: доклад Президента А. Г. Лукашенко на четвертом Всебелорусском народном собрании // Советская Белоруссия. – 2010. – 7 дек. – С. 1–9.

8. Наша сила – в движении: заключительное слово Президента А. Г. Лукашенко на четвертом Всебелорусском народном собрании // Советская Белоруссия. – 2010. – 8 дек. – С. 1–3.

9. О государственной программе инновационного развития Республики Беларусь на 2007–2010 годы: Указ Президента Республики Беларусь от 26 марта 2007 г., № 136 // Нац. реестр правовых актов Респ. Беларусь. – 2007. – № 79. – 1/ 8435.

10. Программа социально-экономического развития Республики Беларусь на 2006–2010 годы: официальное издание. – Минск: Беларусь, 2006. – 176 с.

## Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі

11. Белорусы / отв. ред. В. К. Бондарчик. – М.: Наука, 1998. – 503 с.

12. Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны): вучэб. дапаможнік / А. А. Каваленя [і інш.]; пад рэд. А. А. Кавалені, М. С. Сташкевіча. – Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2004. – 279 с.

13. Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі: дапаможнік / У. Р. Казлякоў [і нш.]; пад рэд. Л. В. Лойкі. – Мінск: ТАА ЦІПР, 2003. – 348 с.

14. Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі: дапаможнік / У. А. Сосна [і інш.]; пад рэд. Л. В. Лойкі. – Мінск: РІВШ, 2005. – 333 с.

15. Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый: вучэб. дапаможнік / В. І. Галубовіч [і інш.]; пад рэд. В. І. Галубовіча і Ю. М. Бохана. – Мінск: Сучасная школа, 2007. – 472 с.

16. Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 1. Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. / Я. К. Новік [і інш.]; пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003. – 416 с.

17. Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 2. Люты 1917–2002 гг. / Я. К. Новік [і інш.]; пад рэд.

Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. – 2-е выд. – Мінск: Універсітэцкае, 2003. – 464 с.
18. Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 1. Са старажытных часоў да канца XVIII ст.: курс лекцый / І. П. Крэнь [і інш.]. – Мінск: РІВШ БДУ, 2000. – 656 с.
19. Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 2. XIX–XX стагоддзі: курс лекцый / П. І. Брыгадзін [і інш.]. – Мінск: РІВШ БДУ, 2002. – 656 с.
20. История Беларуси: в 2 ч. Ч. 1. Досоветский период: учеб. пособие / Я. И. Трещенок; науч. ред. М. И. Матюшевская. – Могилев: МГУ им. А. А. Кулешова, 2004. – 296 с.
21. История Беларуси: в 2 ч. Ч. 2: учеб. пособие / Я. И. Трещенок [и др.]; под ред. Я. И. Трещенка. – Могилев: МГУ им. А. А. Кулешова, 2005. – 310 с.
22. Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. / М. П. Касцюк [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1994. – Ч. 1. – 527 с.
23. Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. / М. П. Касцюк [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1995. – Ч. 2. – 560 с.
24. Новік, Я. К. Гісторыя Беларусі. Ад старажытных часоў – па 2008 г.: вучэб. дапаможнік / Я. К. Новік, І. Л. Качалаў, Н. Я. Новік; пад рэд. Я. К. Новіка. – 2-е выд. – Мінск: Вышэйш. шк., 2010. – 512 с.
25. Чигринов, П. Г. История Беларуси / П. Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. – 432 с.
26. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси: учеб. пособие / П. Г. Чигринов. – 2-е изд., перераб и доп. – Минск: Вышэйш. шк., 2005. – 463 с.
27. Эканамічная гісторыя Беларусі: вучэб. дапаможнік / В. І. Галубовіч [і інш.]; пад агул. рэд. В. І. Галубовіча. – Мінск: НКФ «Экаперспектыва», 1996. – 432 с.

## Дадатковая літаратура

28. Атлас гісторыі Беларусі. Ад старажытнасці да нашых дзён (дадатак да 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі») / Л. І. Языковіч. – Мінск: БелЭн, 2004. – 160 с.
29. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал. Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1996–2004.
30. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў / І. М. Абрамаў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 2000. – 432 с.
31. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941–1945. Энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 1990. – 680 с.
32. Варановіч, В. Рэспубліка Беларусь у сусветным супольніцтве / В. Варановіч // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 3. – С. 65–68.
33. Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны: в 3 т. / редкол.: А. Т. Кузьмин [и др.]. – Минск: Беларусь, 1983–1985. – 3 т.
34. Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя: у 2 т. Т. 1. Абелінскі – Кадэнцыя / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]; маст. З. Э. Герасімовіч. – Мінск: БелЭн, 2005. – 688 с.
35. Гісторыя Беларусі ў табліцах і схемах. Са старажытных часоў да сучаснасці / склад. Л. М. Нагорная, А. В. Цімашэй. – Мінск: ТАА ЮНІПРЭС, 2000. – 144 с.
36. Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк [і інш.]. – Мінск: НКФ «Экаперспектыва», 2007. – 6 т.
37. Довнар-Запольский, М. В. История Белоруссии / М. В. Довнар-Запольский. – Минск: Беларусь, 2005. – 680 с.
38. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2001. – 366 с.

39. Е ф і м о в і ч, А. Станаўленне суверэннай Рэспублікі Беларусь / А. Ефімовіч // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 3. – С. 3–8.

40. З е м л я к о ў, Л. Дзяржаўна-канфесіянальная палітыка ў Рэспубліцы Беларусь / Л. Землякоў, Н. Колікава // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 3. – С. 69–73.

41. І г н а т о ў с к і, У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У. М. Ігнатоўскі. – Мінск: Беларусь, 1991. – 190 с.

42. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX стст.) / В. В. Грыгор’ева [і інш.]; навук. рэд. У. І. Навіцкі. – Мінск: Экаперспектыва, 1998. – 340 с.

43. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. давед. / гал. рэд. Б. І. Сачанка [і інш.]; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 1995. – 671 с.

44. Н а в і ц к і, І. Беларусь і праблемы ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС / І. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 4. – С. 3–10.

45. Н е с ц я р о в і ч, М. Б. Эканоміка Беларусі ў кантэксце развіцця савецкай і сусветнай эканомік (1951–1990 гг.) / М. Б. Несцяровіч // Вес. Нац. акад. навук Беларусі. – 2007. – № 4. – С. 43–50.

46. Памяць. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. – Мінск: Вышэйш. шк., 1985–2004.

47. П и л и п е н к о, М. Ф. Возникновение Белоруссии: новая концепция / М. Ф. Пилипенко. – Минск: Беларусь, 1991. – 142 с.

48. П о н о м а р е н к о, П. К. Всенародная борьба в тылу немецко-фашистских захватчиков. 1941–1944 / П. К. Пономаренко. – М.: Наука, 1986. – 398 с.

49. Р у б и н о в, А. Белорусская модель / А. Рубинов // Беларуская думка. – 2010. – № 3. – С. 3–9.

50. С а р а к а в і к, І. А. Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветнай гісторыі / І. А. Саракавік. – Мінск: Современная школа, 2006. – 456 с.

51. С н а п к о ў с к і, У. Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: у 2 ч. / У. Е. Снапкоўскі. – Мінск: БДУ, 2004. – Ч. 1, 2. – 608 с.

52. Современная Беларусь: энциклопедический справочник. В 3 т. – Минск: Белорус. наука., 2007. – 3 т.

53. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Тэксты. Давед. Камент. / гал. рэд. І. П. Шамякін. – Мінск: Бел СЭ, 1989. – 573 с.

54. Ч а р о п к а, В. Імя ў летапісе / В. Чаропка. – Мінск: Полымя, 1994. – 559 с.

55. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / гал. рэд. Г. П. Пашкоў. – Мінск: БелЭн, 1993–2003. – 6 т.

56. Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя / гал. рэд. І. П. Шамякін. – Мінск: БелСЭ, 1989. – 575 с.

ЗМЕСТ

В у ч э б н а е  в ы д а н н е

**Глушакова** Наталля Аляксееўна

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
Ў ТАБЛІЦАХ І СХЕМАХ

Матэрыялы для самастойнай працы

Рэдактар-карэктар *С. М. Кірыленка*
Тэхнічны рэдактар *Н. Л. Якубоўская*

Падпісана ў друк 28.05.2013. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Рызаграфія. Гарнітура «Таймс». Ум. друк. л. 7,90. Вуч.-выд. л. 5,16.
Тыраж 75 экз. Заказ .

УА «Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія».
ЛІ № 02330/0548504 ад 16.06.2009.
Вул. Мічурына, 13, 213407, г. Горкі.

Надрукавана ва УА «Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія».
Вул. Мічурына, 5, 213407, г. Горкі.